# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 9(22) Кастрычнік 1995 October Год выд. 3


# Спартовы Паветраны Болён Зьбіты над Беларусяй...

Пасадзіць паветраны балён хопіць стралы з лука, шроту з паляўнічае стрэльбы або кулі са звычайнае вінтоўкі. Але вось, каб зьбіць спартовы паветраны балён над Беларусяй (каля мястэчка Бяроза на Брасьцейшчыне) "геройскія" лётчыкі выкарысталі ваенны верталёт. Ну і геройства!...

Справа з гэтым паветраным балёнам мае быць дасьледаваная міжнароднай камісіяй. Паводле паведамленьняў, камісія ўжо распачала сваю працу. Дурны ўчынак, праўда-падобна расейскіх лётчыкаў верталёта, спрычыніўся да забойства двух грамадзян Амэрыкі. Цікава, што скажуць пра гэта эксперты з амэрыканскага і беларускага бакоў. На нашу думку, гэты трагічны выпадак прынёс вялікі мінус Беларускай дзяржаве...

Вось якія "доблесныя" лётчыкі савецкае вывучкі пільнуюць беларускае неба... Сорам!...

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ДЛЯ ПРЭСЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ КАМІСІІ ПА РАССЛЕДАВАННЮ АВІЯЦЫЙНАГА ЗДАРЭННЯ Ў ПАВЕТРАНАЙ ПРАСТОРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*19 верасня 1995 г.*

18 верасня Старшыня Дзяржаўнай камісіі па расследаванню авіяцыйнага здарэння ў паветранай прасторы Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч правёў сустрэчу з міжнароднымі экспертамі Міждзяржаўнага авіяцыйнага камітэта СНД і ЗША з удзелам Часовага Паверанага ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Джонам Борысам. Міжнародныя эксперты выказалі задавальненне кваліфікацыяй спецыялістаў, прыцягнутых для расследавання здарэння, адкрытасцю беларускага боку.

Учора праведзена судова-медыцынская экспертыза астанкаў пілотаў паветранага шара. У бліжэйшы час стануць вядомыя канчатковыя яе вынікі.

У гэты ж дзень міжнародныя эксперты і супрацоўнікі ваеннай пракуратуры вывучылі астанкі паветранага шара, карзіны, яе абсталявання, асабістыя рэчы пілотаў, пачалі больш старанную тэхнічную экспертызу прыбораў і дакументацыі.

Старшыня Дзяржкамісіі Міхаіл Мясніковіч накіраваў пісьмо прэзідэнту аэраклуба Швейцарыі пану Бруна Шэрару, у якім выказаў шкадаванне ў сувязі з трагічным авіяцыйным здарэннем і ад імя ўрада Беларусі выказаў шчырыя спачуванні аб здарэнні. Міхаіл Мясніковіч папрасіў пана Бруна Шэрара прадаставіць у Дзяржкамісію копіі дакументаў, якія адносяцца да падрыхтоўкі, арганізацыі і непасрэднага правядзення 39-га Кубка Gordon Bennet па паветраплаванню на паветраных шарах у перыяд з 9 па 12 верасня гэтага года ў частцы, якая датычыць Рэспублікі Беларусь.

Сёння члены Дзяржкамісіі і міжнародныя эксперты прадоўжаць вывучэнне матэрыялаў і дакументаў аб'ектыўнага кантролю авіяцыйнага здарэння.

**Намеснік Старшыні Дзяржаўнай камісіі Ю. СІВАКОЎ.**

## СВАЯКАМ ЗАГІНУЎШЫХ АМЕРЫКАНСКІХ ПАВЕТРАПЛАВАЛЬНІКАЎ

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір накіраваў спачуванні сваякам амерыканскіх паветраплавальнікаў, якія трагічна загінулі 12 верасня.**

У пісьме пані Караліне Сцюарт-Джэрвіс, якая пражывае ў штаце Мерыленд, гаворыцца:

«Паважаная пані Сцюарт-Джэрвіс!

Прыміце мае самыя шчырыя спачуванні ў сувязі з трагічнай гібеллю Вашага мужа Джона Сцюарта-Джэрвіса.

Хачу запэўніць Вас, што Урад Рэспублікі Беларусь самым старанным чынам падыходзіць да расследавання фактаў, звязаных з інцыдэнтам, які адбыўся.

Спадзяюся, што заключэнне дзяржаўнай камісіі, у рабоце якой прымаюць удзел кваліфікаваныя міжнародныя эксперты, дазволіць ужо ў самы бліжэйшы час устанавіць першапрычыну трагедыі. Паверце, усе мы атрымаем урокі з гэтай недарэчнай выпадковасці і прыкладзём сілы да таго, каб падобнае ніколі не паўтарылася.

Ды надасць Вам Бог мужнасці перанесці цяжкую страту!

З глыбокім смуткам

**Міхаіл ЧЫГІР»**

**Аналагічнае пісьмо накіравана бацьку Алана Бернарда Фрэнкеля пану Віктару Х. Фрэнкелю.**

"ЗВЯЗДА"

## ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР АБ ІНЦЫДЭНЦЕ Ў ПАВЕТРАНАЙ ПРАСТОРЫ

**Шэраг замежных органаў інфармацыі ў апошні час выказвае сумненні адносна намеру беларускіх афіцыйных улад правесці старраннае і ўсебаковае расследаванне акалічнасцей трагічнага авіяцыйнага здарэння над тэрыторыяй Беларусі 12 верасня, якое прывяло да гібелі двух грамадзян ЗША.**

**У сувязі з гэтым карэспандэнт Белінфарма звярнуўся за тлумачэннямі да прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. Вось што паведаміў наконт гэтага Міхаіл Чыгір.**

Любыя меркаванні аб быццам бы наўмысным характары здарэння не адпавядаюць рэчаіснасці.

Шчыра імкнучыся правесці адкрытае і глыбокае расследаванне ўсіх акалічнасцей інцыдэнту ў паветранай прасторы Беларусі, беларускае кіраўніцтва прыняло рашэнне аб неадкладнай арганізацыі работы разам з дзяржаўнай камісіяй па расследаванню прычын авіяцыйнага здарэння і адпаведнай міжнароднай камісіі экспертаў. У састаў міжнароднай камісіі ўвайшлі вопытныя і аўтарытэтныя спецыялісты ЗША, Германіі, Міждзяржаўнага авіяцыйнага камітэта СНД. Паслана запрашэнне прыняць удзел у рабоце камісіі авіяцыйным экспертам Польшчы.

## Belarus wins credit for turning back the clock

The Guardian, London - England. 18. 09. 1995.

**President Lukashenko's Soviet ideas and policies are working — and popular with voters. But businessmen and intellectuals are furious, writes James Meek in Minsk**

IT WAS A week of ups and downs for Bielarus's leader, Alexander Lukashenko. On the minus side, his air force cold-bloodedly shot down a hot-air balloon, killing the two middle-aged US citizens on board. On the plus side, he International Monetary Fund agreed to lend the country £200 million.

Perhaps the Bielarussians' delay of 24 hours in making the balloon tragedy public had nothing to do with the IMF meeting in Washington the same day. Perhaps, too, it was a coincidence that President Lukashenko agreed to the resignation of his central banker, Stanislav Bogdankevich — whose tight money policies satisfied the loan conditions — as soon as the credit was secured. But the balloon incident is the latest evidence of the Soviet mindset Mr Lukashenko is cultivating among the 10 million inhabitants of this reluctantly independent country.

The 40-year-old Bielarussian leader, who used to run a collective farm, stormed to victory in last year's presidential elections on a populist platform of central economic planning, reunification with other former Soviet republics and an end to corruption. He insists the solution to Bielarus's problems lie in union with Russia — the vanished Soviet Russia.

Mr Lukashenko said recently that President Yeltsin would be "for ever cursed" for his role in destroying the Soviet Union. The Bielarussian leader is so popular with Russians who hanker for the Soviet Union that one Russian party has put him — illegally — on its electoral list for parliamentary elections in December.

It is hardly surprising that Bielarus's military last Tuesday turned to their Soviet-era rules of engagement — which permit the destruction of intruding air balloons — when their commander-in-chief publicly begs Russia to station tanks on its territory.

Mr Lukashenko has banned post-independence history schoolbooks and ordered they be replaced by Soviet-era books. He does not speak Bielarussian and calls it "a poor language". He won consent in a referendum to restore the state symbol and flag used in Soviet times. MPs who went on hunger strike earlier this year, claiming the referendum was unconstitutional, were dragged from parliament and beaten up by troops.

Last month, train drivers on the Minsk metro went on strike. They had no political demands — they simply had not been paid for a fortnight.

The government swiftly broke the strike using scab labour, and jailed union leaders under a presidential decree which was not published until 10 days later.

And yet, despite Mr Lukashenko's ideas and policies, the currency is stable, inflation is in the same region as Russia's and Ukraine's, and prices are near world level. Furthermore, despite the impoverishment of ordinary Bielarussians this unacknowledged shock therapy has brought, he still has the support of many peasants and pensioners — a contradiction which infuriates the nationalists, intellectuals and businessmen.

The question is what will happen now that Mr Bogdankevich has gone — particularly if Russia starts to press Minsk over its huge debts for gas and oil as it did with Ukraine.

"The president still views Bielarus as a big collective farm, and he thinks he can extrapolate his farm-managing abilities to the whole country," said Leonid Shukin, a political commentator. "He's astonished when he sees the results of his actions, which are in many cases quite the opposite of his intentions. He's a sincere man, but sincerity is not enough for the president of an independent state."

## BELARUS REACTION TO THE TRAGIC BALLOON INCIDENT

On September 12, 1995 a tragic incident took place in Belarus resulting in the death of two American balloonists. President of Belarus Aleksandr Lukashenko gave orders to set up a state commission for investigating all the details and circumstances of the incident. The state commission was headed by Deputy Prime Minister Mikhail Myasnikovich. In connection with this tragic incident criminal proceedings were initiated.

On September 13, 1995 President of Belarus Aleksandr Lukashenko sent a personal message to President Bill Clinton in which he expressed a feeling of deep regret over the death of two citizens of the United States and deep condolences, on his own behalf and on behalf of the people of Belarus, on the occasion of the incident. State Department spokesman Nicholas Burns said at a daily briefing: "We have received a formal apology from the Belarusian Government and it has been accepted. The principal focus of our activities now with Belarus will be to join in this investigation. Belarus has invited the United States to join in the investigation. We want to see a very serious investigation. We would like to see those responsible for this brought to justice."

On September 14, 1995 an international commission was set up by the Government of Belarus for investigating the tragic balloon incident. The Government of Belarus invited experts from the CIS states, Germany and the United States to work on this commission to ensure a full, open and impartial investigation. Two American experts from the Federal Aviation Administration and the National Transportation Safety Board arrived in Belarus on September 17, 1995 and started their work on the commission the same day. A US surgeon also participated.

On September 19, 1995 Prime Minister of Belarus Mikhail Chygir's letters of condolences to the families of the two American balloonists were delivered.

On September 20, 1995 Prime Minister of Belarus Mikhail Chygir made a press statement in which he stressed that the Government of Belarus gave all guarantees to the members of the international commission in ensuring the access to all information related to the incident. He also stressed that the Government intended to trust the conclusions, which would be made by the commission in its final report. He also stressed that the Government of Belarus considered it inappropriate to comment on any materials which could appear in mass media until the report of the international commission was made public.

The international commission continues its work.

*Embassy of Belarus to the United States of America*

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone / Fax: (616) 942 - 0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Fledgling Belarus fails to implement CFE

**Cooperation:** Trying to reduce economic dependency on Russia, Belarus seeks new trade links with Turkey and the West

By Ümit Enginsoy
*Turkish Daily News*

MINSK- Troubled by severe economic difficulties, the former Soviet republic of Belarus has failed to continue with the process of destroying its excess conventional forces as required by a key arms reduction treaty.

"We have suspended the process of destroying the conventional weapons we should eliminate according to the CFE (Conventional Forces in Europe) treaty, simply because we don't have the financial means to do so," Belarussian Foreign Minister Uladzimir Syanko said on Tuesday.

"We need some $15 million to resume the process, and we can't destroy more weapons without this money," he told a news conference.

Syanko said Belarus' failure to implement the CFE treaty was not a political decision, but stemmed only from financial hardship. Belarus, which lies on the former Soviet Union's border with Poland, was home to thousands of tanks, armored vehicles and artillery pieces during the Cold War period.

The landmark CFE treaty of 1990 aimed at limiting the conventional forces of mainly NATO and former Warsaw Pact members to reduce chances of a serious armed conflict in Europe. Among the CFE treaty's signatories, only Russia, the Soviet Union's successor, has raised serious objections against numerical restrictions brought by the CFE for its southern region.

Unconfirmed rumors also suggest that Belarus is preparing to suspend a major agreement to deliver to Russia strategic nuclear missiles deployed on its soil during the Soviet-era.

According to the unconfirmed reports, Belarus now urges Russia to cancel its natural gas and oil debts of $400 million in return for the continuation of strategic weapons deliveries. Syanko was speaking at a joint news conference with Turkish Foreign Minister Erdal İnönü, who visited Belarus on Aug. 7 and 8 in a drive for improved economic ties between the two countries.

A country of 10.7 million people and with next to no natural resources, Belarus is strictly dependent on Russia in economic terms. It buys oil and natural gas from Russia at world prices — the purchases were made almost for free in the past — and has difficulty in selling its agricultural products to members of the Commonwealth of Independent States.

Its electronics industry is quite advanced in local terms, but cannot compete with western products in western markets. President Alexander Lukashenko, although a devout communist and a staunch political ally of Russia, now sees the necessity to diversify Belarus' trading partners to relieve the country's fledgling post-Soviet economy, which suffers from a four-digit annual inflation rate, serious unemployment problems and a 50 percent negative growth rate since 1991, analysts say.

İnönü's visit to Minsk was mainly directed at setting up a framework to encourage the Turkish private sector to invest in Belarus, which could in the end be a lucrative market for Turkish consumer goods.

The current trade level between the two countries is negligible according to official figures, but several Belarussian traders, through "luggage tourism", are believed to have brought to their country Turkish consumer goods worth $50 million only last year, without paying customs duty and taxes. Several Turkish "tourism companies" are currently based in Minsk to organize this flow of goods into the country via travelling Belarussians.

At a meeting with İnönü, Belarussian Prime Minister Mikhail Chiguir proposed that Turkish construction companies, which have undertaken projects worth over $7 billion throughout the former Soviet Union, could buy Belarussian construction materials at very cheap prices.

Currently, two Turkish companies are involved in four construction projects in Belarus, worth over $300 million. İnönü and Syanko signed an agreement to mutually encourage and protect investments, and Turkish officials said at the end of the foreign minister's visit that Turkish businessmen should be encouraged to be involved in small and medium-scale investments in Belarus.

The visit also cleared the adverse affects of a Belarussian move late last year to expel two Turkish diplomats for alleged spying. The move had angered the Ankara government. But speaking to Turkish reporters, Chiguir openheartedly admitted a mistake on the part of Belarus, saying, "Now we must forget the past and look to the future."

"This issue has been solved and we have no political differences with Belarus," İnönü said.



# Банкаўскі рахунак газэты арыштаваны

## СВАБОДЗЕ патрэбная дапамога

*"Свабода"*

Сярод ста тысяч чытачоў газэты СВАБОДА ёсьць адзін дзіўны чалавек, які чамусьці лічыць сябе чытачом №1. Ужо на працягу цэлага года ён рознымі спосабамі імкнецца прымусіць рэдакцыю кіравацца толькі ягоным меркаваньнем. Паставіўшы сабе на службу ўсе штодзённыя газэты, тэлебачаньне і радыё, гэты чалавек ніяк ня можа зьмірыцца з тым, што СВАБОДА застаецца непадкантрольным выданьнем. Апошнім часам пачаўся татальны наступ на нашу газэту.

Банкаўскі рахунак СВАБОДЫ арыштаваны. Такое рашэньне прыняў суд Партызанскага раёну, які аштрафаваў газэту на 45 мільёнаў рублёў "за нанесеныя маральныя страты" тром грамадзянам. Прычым, рэдакцыя не атрымлівала ніякіх позваў у суд, нас не паінфармавалі нават пра прынятае рашэньне, пазбавіўшы тым самым магчымасьці апратэставаць яго ў касацыйным парадку.

Цалкам магчыма, што СВАБОДУ заганяць у падпольле. На мінулым тыдні чытач №1 Аляксандар Лукашэнка апублікаваў у сваіх газэтах грознае папярэджаньне "некаторым сродкам масавай інфармацыі". Наколькі нам вядома, ставіцца мэта на перыяд выбарчай кампаніі пад выглядам перарэгістрацыі газэтаў прыкрыць некалькі выданьняў.

Каб выстаяць, СВАБОДЗЕ патрэбна фінансавая дапамога.

**Рэдакцыя**

## АБ УЗНАГАРОДЖАННІ МЕДАЛЁМ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. Вышэйшай узнагародай рэспублікі адзначана яго шматгадовая плённая дзейнасць па развіццю і захаванню культурнай спадчыны беларускага народа. Той жа ўзнагароды — медаля Францыска Скарыны — згодна з указам Прэзідэнта ўдастоены артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Генадзь Сцяпанавіч Аўсянікаў і Генадзь Міхайлавіч Гарбук — за вялікі ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва.

# Польская прэса пра дыктатуру ў Беларусі

Буйная польская штодзённая газэта *Gazeta Wyborcza* у сваім нядзельным выданьні, якое разыходзіцца самым вялікім тыражом у Польшчы ў 710 тыс. экзэмпляраў, зьмясціла на першай старонцы сімвалічнае фота прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Над ім чорным шрыфтам, амаль такім, якім набраная сама назва газэты, загаловак: "Дыктатура на Беларусі".

Камэнтары да інфармацыі з Менска ўласнага карэспандэнта Цэзарыя Галіньскага пра апошнія ўказы прэзідэнта Лукашэнкі дае галоўны рэдактар газэты, адзін з самых вядомых польскіх інтэлектуалаў, зацяты змагар з камуністычным таталітарызмам Адам Міхнік. Зазначым, што сп.Міхнік асабіста добра ведае сітуацыю ў нашай краіне — у красавіку ён наведаў Беларусь, і нават браў інтэрвію ў Лукашэнкі. Менавіта ў тым інтэрвію Лукашэнка заявіў: "Я — савецкі беларус".

У нядзельным нумары *Gazety Wyborczaj* Міхнік піша: *"Прэзідэнт Лукашэнка ў чарговы раз прадэманстраваў да чаго здольны настальгічны бальшавізм, які дарваўся да ўлады. Ягоныя пастановы — гэта замах на свабоду. Яны стаўяць Беларусь па-за супольнасьцю дэмакратычных дзяржаваў.*

*Палітыка Лукашэнкі можа стаць прыкладам для ворагаў дэмакратыі ў іншых краінах, асабліва гэта датычыць Расеі, дзе не бракуе на аматараў дыктатуры. Вось чаму рэсаветызацыя Беларусі зьяўляецца вельмі кепскім прыкладам для сьвету і для Польшчы".*

Адам Міхнік не адзіны, хто выказвае сваю надзвычайную занепакоенасьць падобным разьвіцьцём падзеяў на Беларусі. Іншыя газэты таксама зьмясьцілі вельмі насьцярожаныя камэнтары пра ўказы беларускага прэзідэнта, якія датычаць скасаваньня імунітэту дэпутатаў беларускага парламанту і забароне дзейнасьці незалежных прафсаюзаў. Урадавая *Rzecz Pospolita* зьвяртае ўвагу на тое, што ўказ прэзідэнта ўзмоцніць нагляд за палітычнымі партыямі і грамадзкімі арганізацыямі. Ён зьяўляецца нічым іншым, як аднаўленьнем практыкі сумнавядомага КГБ за савецкім часам.

*"Свабода"*

# Праўда бярэ верх над няпраўдай

Ад успамінаў Юстына Пракаповіча, што пад загалоўкам „З мінулых дзён" друкуюцца ў „Ніве", не адарвацца. Тое, што ён піша, гэта праўда і яшчэ раз праўда. Аўтар выдатна карыстаецца беларускай мовай; яна ў яго прыгожая, сакавітая, багатая і дасканалая, як і сама аповесць. І цешыцца сэрца, што не звяліся ў нашым народзе такія таленты. Вельмі важным ва ўспамінах з'яўляецца тое, што Юстын Пракаповіч, які нарадзіўся ў той частцы Беларусі, якую пасля апошняй вайны захапілі бальшавікі, не падлізваецца ніякім правячым прайдзісветам: ні санацыйным кругам, ні бальшавікам, ні немцам, а толькі піша аб іх праўду. Бо большасць нашых аўтараў з Беласточчыны, і не толькі з яе, свае ўспаміны пісала аднабакова: на санацыю валілі громам і агнём, а бальшавікоў, якія нас „вызвалілі з-пад панскага ярма" восенню 1939 года, выхвальвалі аж да неба. Яны ў немцах, акупантах падчас апошняй вайны, бачылі смяротнага ворага беларусаў, а кожную бальшавіцкую партызанку лічылі святасцю. Хаця часта гэтыя лясныя „святыя" паводзілі сябе горш ад звычайных бандытаў, бо былі грабіцелямі, зладзеямі, п'яніцамі і сяляне іх баяліся, як агню. Колькі вёсак пайшло праз іх з дымам і колькі людзей загінула праз іх з рук немцаў-акупантаў, калі партызаны недзе каля вёскі або ў самой вёсцы забілі аднаго ці некалькіх немцаў, часта каб пажывіцца іхняй сумкай (прыкладам вёска Райск, што на Бельшчыне). Плявацъ ім было на ход вайны і атрымліваліся з гэтага страшныя трагедыі, бо нямецкія фашысты рабілі сваю лютую помсту на мірных жыхарах вёсак. У нашых ваколіцах быў атрад Суворава, у якім служыў Дзямян Захожы з Карыціск, былы дэпутат саветаў, які аднасяльчан, „кулакоў", высылаў на Калыму і ў Сібір. Гэты атрад бадай не забіў ніводнага немца, толькі займаўся грабяжом насельніцтва і п'янствам. А сам Захожы пасля вайны не адважыўся застацца ў роднай вёсцы і падаўся ў „вольны" СССР. Некалькі разоў прыязджаў у Польшчу (нават быў госцем рэдакцыі „Нівы") у абарванай вопратцы і гумовых ботах. Аднак партыя яго дацэньвала, бо некалькім яе членам Д. Захожы выррабіў партызанскія білеты, хаця ў сапраўднасці яны падчас нямецкай акупацыі сядзелі на печы. Такая, на жаль, была праўда, аднак многія нашы публіцысты пісалі інакш — хлусню. Ніводзін з іх не напісаў, што ўсе гэтыя партызаны карысталіся выключна расейскай мовай. Юстын Пракаповіч піша цалкам інакш, бо піша праўду. Ён піша адкрыта, што нам, беларусам, пры санацыі пагражала поўная асіміляцыя на карысць польскай мовы і каталіцызму. Пракаповіч піша так, як было ў сапраўднасці і не гарыць ніякай нянавісцю ці пагардай ні да камуністаў, ні да палякаў, ці рускіх, а таксама да кожнай мяняючайся ўлады. Ён быў у цэнтры падзей, адкуль найбольш відаць, бо тыя, якія аставаліся на пабочыне, былі і ёсць блізарукімі, бо адтуль мала відаць і іхнія кніжкі — гэта макулатура. Пракаповіч цікава апісвае нашэсце бальшавікоў на наш край і тое, што многія нашы беларусы скора расчараваліся бальшавіцкімі пустымі абяцанкамі. Таксама цікава піша і пра нямецкую акупацыю і пра савецкую партызанку, якой яна была ў сапраўднасці; ніхто яшчэ так у „Ніве" не пісаў. І таму мая просьба: успаміны Ю. Пракаповіча абавязкова пастарайцеся выдаць кніжным выданнем калі закончыцца іх друк у „Ніве".

*"НІВА"* **Мікалай Панфілюк**

# ГЕОРГІЙ КУНЕВІЧ: «ЗАМЕСТ РЭФОРМ НАМ ПРАПАНОЎВАЛІСЯ ПРАВАВЫЯ ЭКСПЕРЫМЕНТЫ»

**Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі — тры гады. Са старшынёй фонду Георгіем КУНЕВІЧАМ гутарыць карэспандэнт «ДВ» Сяргей ГРЫБ.**

**— Георгій Георгіевіч, можна меркаваць, што Фонд імя Льва Сапегі нарадзіўся на хвалі эйфарыі пасля жніўня 1991–га. Пасля таго прайшло больш за тры гады, якія можна ахарактарызаваць як «перыяд адкату». Ці спраўдзіліся надзеі, якія ўскладаліся ў свой час на стварэнне Фонду?**

— Справа ў тым, што Фонд імя Сапегі стварыўся зусім не на хвалі эйфарыі, а на ўсведамленні таго, што працэс дэмакратычных рэформ на Беларусі (у адрозненне ад, напрыклад, Чэхіі) будзе паступовым, павольным і без значных сацыяльных вынікаў. Мы настройваліся на цяжкую і руплівую працу, таму, зразумела, ніякіх ілюзій наконт хуткіх пераўтварэнняў ад нашай дзейнасці не было.

**— Які, на ваш погляд, рэальны тэрмін правядзення рэформ на Беларусі?**

— Гэты тэрмін, па аптымістычных прагнозах, ніяк не меншы за 8-10 год. Бо калі прааналізаваць становішча ў краіне, можна зрабіць высновы, што на Беларусі няма глыбокіх дэмакратычных традыцый і няма тых дзяржаўных структур, якія б былі вольнымі ад «вопыту» работы кампартыі. Таму, на наш погляд, адзіны эфектыўны шлях пабудовы дэмакратычнай Беларусі — гэта адмова ад мітынговага сіндрому і прафесійная праца па пэўных яскрава акрэсленых праграмах.

**— Калі не сакрэт: якіх канкрэтна?**

— Фонд імя Сапегі ставіць сваімі мэтамі садзейнічанне працэсам рэформ у галіне самакіравання, развіцця рынкавай эканомікі і бізнесу, павышэнне прававой культуры, абарону правоў чалавека, культурна-асветніцкую дзейнасць, рэалізацыю пэўных экалагічных праграм, а таксама правядзенне сацыялагічных даследаванняў.

**— Калі падсумаваць усё пералічанае вышэй, асноўную мэту Фонду можна вызначыць як пабудову на Беларусі грамадзянскай супольнасці?**

— Безумоўна. У любой дэмакратычнай краіне грамадства заўсёды існуе крыху незалежна ад дзяржавы. Таму ўся палітыка падобных краін пабудавана на дзейнасці разнастайных фондаў, камітэтаў, асацыяцый, якія, па сутнасці, і з'яўляюцца асновай дэмакратычнай дзяржавы.

**— Здаецца, у апошнія гады аб дэмакратыі мы разважаем нямала. Але зусім нядаўна беларускі народ зрабіў выбар, прычым, мне здаецца, не на яе карысць?**

— Я не згодзен з тымі, хто лічыць, быццам народ адназначна адвярнуўся ад дэмакратыі, і што на Беларусі ўсталёўваецца аўтарытарны рэжым. Грамадзяне Беларусі аддалі перавагу камуністам толькі таму, што большасць нашых людзей яшчэ жыве сфарміраванымі за 70 год стэрэатыпамі ўтрыманцаў, паводле якіх нехта (тыя ж камуністы) павінен прыйсці і зрабіць для іх усё.

**— Але ж як перамагчы гэтыя стэрэатыпы?**

— Праз актыўны ўдзел грамадзян Беларусі ў самакіраванні. Але для гэтага патрэбна рэформа ўсёй сістэмы мясцовай улады, якая павінна стаць паўнавартаснай, а не фармальнай, як тыя ж Саветы, якія нельга назваць уладай, бо Саветы фактычна не маюць ні ўласнай маёмасці, ні ўласных фінансаў.

Віталь ШЧЭРБА:

# "ЖЫЦЬ ЛЮБЛЮ Ў АМЭРЫЦЫ, А Ў БЕЛАРУСІ — БЫЦЬ ГОСЬЦЕМ"

ЗВЯЗДА

**Сустракацца са спартыўнымі «зоркамі» заўсёды прыемна. Асабліва з тымі, хто з беларускага небасхіла на няпэўны час некуды знікае, а потым зноў з'яўляецца. Шасціразовы алімпійскі чэмпіён Барселоны Віталь Шчэрба — адзін з тых, прайсці міма і не заўважыць якога проста немагчыма. Народ ведае сваіх герояў. Сталіца адразу напаўняецца чуткамі: «Шчэрба прыехаў!»**

**Знакамітага гімнаста доўга шукаць не прыйшлося. Яго сляды прывялі ў спарткомплекс «Стайкі».**

**— Віталь, як кажуць, з прыездам на родную зямлю. Ты настолькі рэдка бываеш у Беларусі, што так і напрошваецца пытанне: адкуль і якім ветрам?**

— Прама з японскай Універсіяды прыехаў у Мінск, каб рыхтавацца разам з камандай да чэмпіянату свету, які хутка пачнецца ў Японіі. Сапраўды, я рэдка наведваю Беларусь, паколькі зараз пражываю з сям'ёй у ЗША, штат Пенсільванія, горад Стэйд-Коледж.

**— Звычайна прафесіяналы трэніруюцца па ўласнай праграме, індывідуальна.**

— Мне асабіста цяжка рыхтавацца ў адзіночку да такіх буйных спаборніцтваў як чэмпіянат свету ці Алімпіяда. Да таго ж я хачу сваёй прысутнасцю дапамагчы камандзе, падняць у яе настрой.

**— Кажуць, ты канчаткова збіраешся змяніць беларускую прапіску на амерыканскую?**

— Я пакуль там пражываю. А што будзе далей — не ведаю. Атрымаць амерыканскае грамадзянства не вельмі проста. Трэба чакаць гадоў пяць.

А пакуль я буду выступаць за Беларусь. Дарэчы, летнія Алімпійскія гульні ў Атланце — мой апошні старт на вышэйшым узроўні.

**— Будзем завязваць з гімнастыкай?**

— Зусім не. Я збіраюся выступаць на камерцыйных спаборніцтвах, розных паказальных шоу, карацей, зарабляць грошы. Гімнастыка — гэта мая работа, і да канца сваіх спартыўных дзён я застануся гімнастам. Калі, вядома, траўмы не замучаць.

**— Віталь, у некаторых спартыўных крыніцах раз-пораз праскоквае інфармацыя, што Шчэрбу ў Амерыцы ўжо пачынаюць забываць. Маўляў, амерыканцы любяць тых, хто пастаянна выйграе.**

— Па-першае, на працягу некалькіх гадоў запар вельмі цяжка знаходзіцца на першых ролях. На табе вісіць груз адказнасці, ты ведаеш, што за табой ідуць іншыя, на цябе раўняюцца. Ну, а наконт халаднаватых адносінаў амерыканцаў да Шчэрбы... Гэта, як там кажуць, зламаны тэлефон. У Амерыцы я выдатна сябе адчуваю. Мой рэйтынг, лічу, наадварот, у апошні час прыўзняўся. Я ўжо паўгода як не куру, стаў крыху больш амерыканцам: часцей усміхаюся, не дапускаю асаблівых вольнасцей у размове.

Рэгулярна выязджаю ў розныя штаты для работы з дзецьмі. Ім вельмі падабаецца, што вялікі чэмпіён паказвае нейкія элементы.

**— Пра Беларусь хоць калі-некалі ўспамінаеш?**

— Пастаянна. Тут застаюцца мая мама, сябры, знаёмыя. Хоць жыць тут, шчыра кажучы, немагчыма. Сюды можна толькі прыязджаць адпачываць, а жыць у Амерыцы. Мне там жывецца больш спакойна, я не баюся за сваю сям'ю. А ўмовы жыцця амерыканскія і беларускія наогул не хацелася б параўноўваць. Па маіх мерках, сённяшняя Беларусь — гэта Амерыка 20-х гадоў. Хоць хацелася б, канешне, памыліцца.

**— У такіх выпадках кажуць: у багатых свае звычкі.**

— Багацце — паняцце адноснае. Я не лічу сябе багатым, хоць у мяне ёсць свой катэдж, машына. Галоўнае — быць багатым душой і заставацца самім сабой. Я амерыканізаваўся толькі ў тым плане, што стаў, можна сказаць, больш культурным, а ў душы я заўсёды застануся тым самым Віталікам...

**— Чэмпіёнам, якому нічога на гэтым свеце не ў навіну?**

— Вядома. Я люблю дома збіраць грыбы. Там я проста не ведаю, дзе яны растуць... У захапленні ад рыбнай лоўлі. Праўда, рыбу лепш лавіць за акіянам. Там гэта як від спорту. Злавіў і, нягледзячы на яе памеры, — выпусціў. У нас, на жаль, гэтага няма.

**— Зараз у цябе свой «джып». Раней, наколькі я ведаю, ты аддаваў перавагу іншым машынам?**

— «Джып» лічыцца лепшай машынай у Амерыцы. Яна пройдзе ўсюды, да таго ж зімой я магу зрабіць усе чатыры колы вядучымі. Наогул, я люблю апошнія мадэлі «Мерседэсаў», «Вольва» і «Міцубісі» - кабрыялет.

**— А матацыкл?**

— Ужо не. Не так даўно я так пракаціўся, што траўмаваў косць рукі. А без рук які я гімнаст?

**— Ці не ад гэтага тваё выступленне на Універсіядзе было не самым бліскучым? Дарэчы, як ты сам яго ацэньваеш?**

— Што траўмы мяне пастаянна праследуюць, дык гэта дакладна. Толькі і паспяваю іх залечваць, а часам і не да канца. Прыходзіцца выходзіць на памост на абязбольваючых уколах.

Наконт выступленняў у Японіі. Думаю, выступіў не самым лепшым чынам, мог бы і лепш. Аднак, калі ўлічваць, што я амаль цэлы год не ўдзельнічаў ні ў якіх сур'ёзных спаборніцтвах, то выступіў нармальна. Тым больш, што двойчы ў мяне былі падзенні на кані.

**— Такому майстру, як ты, пра падзенні, мабыць, наогул трэба забыць?**

— Па вялікаму рахунку, так. У спорце дзейнічаў прынцып: калі прайграў, то апраўдвацца няма чаго. Нікога не хвалюе — падаў ты ці не. Трэба быць першым — і ўсё тут. Дарэчы, японскія студэнцкія старты былі не самыя-самыя. Зусім хутка там пачынаецца першынство свету.

**— Усё ж галоўныя старты — гэта Алімпіяда ў Атланце. Мабыць, не будзе вялікай трагедыі, калі табе нешта перашкодзіць у Токіо атрымаць перамогу?**

— Не. Перад Атлантай я павінен выступіць дастойна на чэмпіянаце свету. Інакш, калі перамогу адкладваць на заўтра, то пра поспех на летніх гульнях можна будзе і не думаць. Гімнастыка — такі від спорту, які прагрэсіруе буйнымі крокамі. Сёння прыпынішся — заўтра ўжо нікога не дагоніш.

**— На твой погляд, у беларускай гімнастыкі ёсць будучае?**

— У гэтым я глыбока сумняваюся. Зараз засталося некалькі чалавек, якія «цягнуць» усю каманду. А праз год-два ўсе раз'едуцца. І трэнеры таксама. Каму хочацца «пахаць» за 50 долараў у месяц?

**— Ты падтрымліваеш якія-небудзь адносіны з беларускай федэрацыяй гімнастыкі?**

— Канешне. Прыкладна раз у тыдзень размаўляю са сваім трэнерам Раманам Вайкіным. Цікаўлюся, як ідуць справы ў сяброў. Гэта ж мая каманда. Я жыву яе жыццём.

**— Віталь, многія лічаць, што табе аднаго твайго прозвішча дастаткова, каб вырашыць любыя пытанні за дзень-два. Напрыклад, адкрыць візу ў нейкую краіну.**

— Не буду спрачацца, што імя дапамагае мне ў жыцці. Аднак тут ёсць свае нюансы. Тую ж візу ў Амерыку ці Еўропу мне лягчэй адкрыць у сябе на Радзіме. На Захадзе гэта зрабіць намнога цяжэй. Там цябе, хоць услых аб гэтым ніхто не скажа, усе вакол лічаць грамадзянінам былога Савецкага Саюза, які ў іх свядомасці асацыіруецца з некультурнасцю і грубасцю.

Адчуваць гэта на сабе, мяркую, не зусім прыемна. Нават калі ты і Шчэрба.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



*Георгій ТАРАЗЕВІЧ:*

# «МЯНЕ ЧАМУСЬЦІ ЎСЕ БАЯЦЦА. КЕБІЧ БАЯЎСЯ, БАЯЦЦА І ЗАРАЗ. АЛЕ Ж ЧАМУ, Я ДАКЛАДНА НЕ ВЕДАЮ»

"ЗВЯЗДА"

Другога чэрвеня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сваім указам вызваліў Георгія Таразевіча ад абавязкаў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча.

Трэцяга чэрвеня Георгій Таразевіч накіраваў у адрас Прэзідэнта заяву наступнага зместу:

*«Як мне стала вядома з польскіх сродкаў масавай інфармацыі, Вамі выдадзены ўказ аб адкліканні мяне з пасады Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча «ў сувязі з пераходам на іншую работу».*

*У бліжэйшы час пераходзіць на якую-небудзь іншую работу не ўваходзіла ў мае планы і мне незразумела, адкуль вы атрымалі такую інфармацыю. Гэтыя паведамленні для мяне былі нечаканымі. Па сутнасці, я сам думаў аб тым, каб пакінуць гэтую пасаду, таму што з думкамі пасла ў Мінску перасталі лічыцца. Напрыклад, міністр М. Марыніч без маёй згоды прыняў рашэнне аб прызначэнні новага саветніка па эканамічных пытаннях у пасольстве. Не лічыцца з меркаваннямі пасла па такіх праблемах недапушчальна ў дыпламатычнай практыцы. Ваша ж рашэнне аб маім адкліканні, аб якім нават кіраўніцтва МЗС даведалася са сродкаў масавай інфармацыі, таксама нельга зразумець. Я падпарадкоўваюся гэтаму рашэнню, але ніяк не магу звязаць сябе з яго вынікамі».*

Асоба Г. Таразевіча шырока вядомая не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі: былы мэр г. Мінска, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета СССР. Таму паведамленне аб яго адстаўцы выклікала шмат чутак і пытанняў. Адказаць на некаторыя з іх карэспандэнт «Звязды» папрасіў самога Георгія Таразевіча, які пакуль працягвае выконваць абавязкі пасла і знаходзіцца ў Варшаве.

**– Георгій Станіслававіч, чым, на ваш погляд, выкліканы ўказ Прэзідэнта аб вашай адстаўцы?**

– Мне цяжка сказаць, з чым усё гэта звязана. Я магу толькі здагадвацца. Лічу, што былі адмоўна ўспрыняты мае выказванні наконт рэферэндуму ў сродках масавай інфармацыі. У прыватнасці, я гаварыў, што адзінай дзяржаўнай мовай павінна быць беларуская; што «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг – гэта наша гісторыя, прычым гісторыя далёкіх продкаў; што навошта пытацца ў народа аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, калі і так усім вядома, што ніхто не выступае супраць; і нарэшце, што ў сапраўднай дэмакратычнай дзяржаве Канстытуцыя павінна абараняць грамадства ад узурпацыі аднай галіны ўлады.

**– Як вы можаце пракаменціраваць ход перадвыбарнай кампаніі ў парламент, арганізацыю выбараў і іх вынікі?**

– Калі першы тур быў дэмакратычным, то ў другім многіх кандыдатаў жорстка блакіравалі. Напрыклад, я дакладна ведаю, што кіраўнікам буйных прадпрыемстваў Жодзіна былі дадзены ўказанні блакіраваць маю кандыдатуру.

**– На ваш погляд, чаму?**

– Мяне чамусьці ўсе баяцца. Кебіч баяўся, баяцца і зараз. Але ж чаму, я дакладна не ведаю.

**– Ці не збіраецеся вы восенню зноў вылучыць сваю кандыдатуру?**

– Я чалавек паслядоўны, таму буду імкнуцца. Не ведаю, ці будзе такая магчымасць, бо выбары ўвогуле могуць не адбыцца. Асабліва калі будзе прынята рашэнне наконт таго, што новы парламент пачне працу пры наяўнасці не 2/3, а 2/5 свайго саставу. Дарэчы, гэтае паведамленне вельмі здзівіла польскую грамадскасць, бо такая прапанова абсурдная для ўсіх, хто разумее, што такое дэмакратыя і што такое народнае прадстаўніцтва. А ўвогуле, адносіны да нас на Захадзе сталі вельмі насцярожанымі.

**Гутарыў Аляксандр ШЧАДРАНОК.**

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ: Гэта жудасна, але ненадоўга

У нядаўнім інтэрв'ю Станіслаў Шушкевіч ацаніў вынікі рэфэрэндуму як "жудасныя". На думку экс-спікера, "яны будуць мець цяжкія наступствы для Беларусі, для станаўлення беларускай дзяржаўнасці, для адраджэння беларускасці, праўды беларускай гісторыі. Знявечаны, скалечаны камуністычным часам люд не заўсёды разумеў, што робіць".

Якімі ж могуць быць цяпер дзеянні прэзідэнцкай адміністрацыі? С. Шушкевіч лічыць, што "адміністрацыя няздольная зрабіць што-нібудзь у эканоміцы. Гэтая каманда не адукаваная ні ў гісторыі, ні ў эканоміцы. Яна не ведае што рабіць і дзейнічае бессістэмна, яна няздольная стрымаць спад вытворчасці. Паляпшэння я не чакаю".

Станіслаў Шушкевіч лічыць, што ў цяперашняй палітычнай сітуацыі "дэмакратам трэба быць разумнейшымі. Многія, хто называў сябе дэмакратам, маюць вельмі своеасаблівае ўяўленне аб дэмакратызме. Не хацеў бы ў цяжкі момант рабіць заўвагі ў бок БНФ, але можа і Фронт гэта прымусіць задумацца над тым, што ён вельмі часта дзейнічаў неразумна. Я думаю, дэмакратыя павінна прааналізаваць, што адбылося. Хопіць цапацца паміж сабою, трэба глядзець, дзе галоўныя цяжкасці дэмакратыі".

Гаворачы пра змену сімволікі, С. Шушкевіч адзначыў: "Мы жылі 75 гадоў пад савецкай сімволікай, пражывем яшчэ. Мы перажылі рэфэрэндум аб захаванні Саюзу, перажывем і гэты. А вынікі будуць тыя самыя. У рэшце рэшт свядомасць людская падымецца. Расце новае пакаленне, якое знойдзе праўду гісторыі і крыніцы, дзе вывучыць і зразумець. Таму я лічу, што гэта ненадоўга".

## Успамін пра канал, ці Настальгія па "разьвітому сацыялізму"?

Час ад часу рэспубліканскае радыё раніцай дае пералік знакамітых падзей таго ці іншага дня. Неяк у пачатку жніўня дыктар перадае: "Шэсцьдзесят два гады назад у гэты дзень быў адкрыты Беламорска-Балтыйскі канал". І без адзінага каментарыя. Сказаць, што той канал насіў імя "бацькі ўсіх народаў", дыктар не пасмеў ці не ведаў. А варта было нагадаць радыёслухачам, што ў будаўніцтве тым прынялі ўдзел сотні тысяч вязняў сталінскіх лагераў, у тым ліку нямала і беларусаў, раскулачаных і рэпрэсіраваных органамі НКУС па розных надуманых абвінавачваннях. Ведаю ў Слуцку чалавека, пенсіянера, які там быў разам з бацькам. Пасля раскулачвання таго адправілі на канал. Дванаццацігадовага сына не было на каго пакінуць, то бацька забраў яго з сабою.

Як сведчыць кніга А.Салжаніцына "Архіпелаг ГУЛАГ", на будаўніцтве канала загінулі звыш 50 тысяч вязняў. Але гэтыя факты радыёжурналістаў не цікавілі — ім хацелася адзначыць толькі дату.

Падобных "недомолвок" у іх перадачах у апошні час нямала. Аднойчы ўключыў рэпрадуктар — перадаюць вершы Янкі Купалы. Вось, думаю, добры падарунак паднеслі радыёслухачам, бо хто з беларусаў не любіць знакамітага песняра і патрыёта Беларусі. А ў перадачы прагучалі яго перадваенныя і не самыя лепшыя вершы, напісаныя паэтам хутчэй дзеля застрахоўкі ад магчымых рэпрэсій, чым па закліку сэрца: "Я калгасніца маладая", "На полі калгасным" і г.д. У іх паэт услаўляў "заможнае" калгаснае жыццё, хоць я памятаю тыя галодныя гады, калі жыхары нашай, не беднай да стварэння калгаса, вёскі харчаваліся летам лебядой, хлеб на стале быў рэдкім госцем, бо на працадзень выдавалі па сто грамаў збожжа. Але ж, мусіць, камусьці з журналістаў рэспубліканскага радыё вельмі карцела ўславіць дыхаючую на ладан калгасную сістэму, што даўно патрабуе рэфармавання.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

*Беларуская Прэса — узмацняе грамадзкае, культурнае і палітычнае жыцьцё беларускага народу!!!*

# Час дэмакратыі?

"Чыр. Зьмена"

*Са старшынёй Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі Аляксандрам Дабравольскім гутарыць рэдактар аддзела палітыкі "Чырвонай змены" Якаў ЯСЭПКІН.*

***— Аляксандр Альгертавіч, як вядома, нядаўна завяршыўся Ваш візіт у Злучаныя Штаты, які адбыўся па запрашэнню амерыканскага Савета маладых палітычных лідэраў. Раскажыце, калі ласка, пра яго праграму і ўражанні ад паездкі.***

— Асноўная мэта візіту — вывучэнне выбарчай сістэмы ў Злучаных Штатах Амерыкі. Гэта краіна з даўнімі дэмакратычнымі традыцыямі і таму вельмі карысна ведаць, як "працуе" дэмакратыя і як працуе эканоміка ў ЗША. У праграме візіту ўдзельнічалі каля 100 прадстаўнікоў з самых розных краін свету — з Германіі, Англіі, Італіі, Францыі, а таксама Усходняй Еўропы — Польшчы, Чэхіі, Беларусі, Расіі, Украіны, з Азіі, Панамы, Гватэмалы, Аргенціны, Намібіі і г.д. Спачатку ўся дэлегацыя знаходзілася ў Вашынгтоне, пасля раз'ехаліся па розных штатах, асабіста я ўваходзіў у дэлегацыю з 14 чалавек у штаце Мінесота. Што самае цікавае: задоўга да выбараў яўная большасць насельніцтва ўжо высветліла, за каго будзе галасаваць. Пад час нашага знаходжання ў Мінесоце туды прыехаў прэзідэнт Біл Клінтан, і мы сустрэліся з ім і першай лэдзі Хілары Клінтан. Пабачылі, як выступае прэзідэнт у падтрымку сваіх кандыдатаў. Дарэчы, гэта вельмі цікавая рэч, калі прэзідэнт агітуе ў "амерыканскім стылі". Не адзін прэзідэнт, а і самі кандыдаты вельмі жорстка могуць крытыкаваць сваіх апанентаў, канкурэнтаў і гэта абсалютна прымальна для тамтэйшай палітычнай традыцыі. Але колькі б яны ні крытыкавалі канкурэнтаў — нельга пачуць нейкіх дрэнных слоў пра асобу саперніка. Можна пачуць словы аб тым, што ў яго дрэнная палітычная пазіцыя, што ён памыляецца, што ён многае зрабіў не так, але нельга пачуць, што сам ён дрэнны чалавек. Пасля знаходжання ў штаце Мінесота мы пераехалі ў Нью-Йорк, дзе абмяркоўвалі вынікі выбараў, іх уплыў на развіццё палітыкі ЗША (унутранай і знешняй), а таксама ўплыў вынікаў выбараў на развіццё амерыканскай эканомікі і эканомікі сусветнай.

***— У друку паведамлялася: Вы сталі адзіным прадстаўніком Беларусі сярод назіральнікаў з многіх краін свету. Як непасрэдна праходзілі выбары на новай радзіме статуі Свабоды, у чым былі вашы абавязкі?***

— Мы больш назіралі за тым, як праходзяць самі выбары, як праводзіцца агітацыя. Таму сустракаліся і з сённяшнімі кангрэсменамі, сенатарамі і з тымі, хто балаціраваўся. Мы не збіраліся ацэньваць дэмакратычна ці не праводзяцца выбары. Думаю, тут і пытання не ўзнікае. У першую чаргу таму, што ў ЗША свабодныя СМІ. Мы бачылі: вельмі розныя думкі кандыдатаў выказваліся ў сродках масавай інфармацыі. Кожны амерыканец лічыць гэта нармальным і неабходным. Тут вельмі вялікае адрозненне ад нашай краіны. Кандыдаты вельмі проста тлумачаць свае праграмы, заўсёды засяроджваюць увагу на іх адрозненне ад праграм сваіх садзернікаў.

***— Калі ласка, больш падрабязна аб сустрэчах у Амерыцы.***

— Іх вельмі многа. У Вашынгтоне мы сустракаліся з прадстаўнікамі амерыканскага Савета маладых палітычных лідэраў, адміністрацыі прэзідэнта (былі ў Белым Доме), з супрацоўнікамі бібліятэкі Кангрэса ЗША. Запомніўся вечар, праведзены з прадстаўнікамі адміністрацыі штата Мэрыленд. А пасля ў Мінесоце, дзе знаходзіліся 6 дзён, была магчымасць сустракацца з вельмі рознымі людзьмі: гэта прадстаўнікі дэмакратычнай большасці ў заканадаўчым сходзе штата Мінесота, дэмакраты і рэспубліканцы, якія праводзілі перадвыбарчую кампанію. Таксама кантактавалі з эканамічнымі структурамі, банкірамі, у Гандлёвай палаце абмяркоўвалі магчымасці супрацоўніцтва з вядомымі фірмамі. Пакуль амерыканцы больш прыглядваюцца да Беларусі, не рызыкуюць укладваць вялікія грошы ў нашу эканоміку. Некалькі сустрэч адбылося ў Нью-Йорку.

***— Цікава даведацца, па якіх прынцыпах адбіраліся палітыкі для ўдзелу ў амерыканскай праграме, безумоўна, прэстыжнай і меўшай пэўны рэзананс у свеце.***

— У пачатку года пад час візіту прэзідэнта Клінтана на Беларусь амерыканскае пасольства выбрала 4 палітычныя партыі ў рэспубліцы для сустрэчы іх прадстаўнікоў з Б.Клінтанам. У іх ліку АДПБ. Відаць адыграла ролю і тое, што мы прытрымліваемся дэмакратычных прынцыпаў у палітыцы і эканоміцы. Напрыклад, лічым неабходным абараніць прыватную ўласнасць, правесці прыватызацыю, стабілізаваць фінансы і самае галоўнае, — правы чалавека павінны мець першачарговае значэнне. Мы лічым, што ў Беларусі не трэба вынаходзіць нейкіх сваіх шляхоў развіцця, а трэба выкарыстоўваць усё добрае, што праверана сусветнай практыкай.

***— Вядома, беларускі парламент прыняў у канчатковым варыянце заканадаўства аб выбарах у новую дэпутацкую асамблею. Вашы меркаванні наконт выбарчага закона, якім ён павінен быць, ці паўплывае візіт у Злучаныя Штаты на падрыхтоўку АДПБ да выбараў?***

— Мы сумесна з Сялянскай партыяй свой падалі законапраект аб выбарах у Вярхоўны Савет, зрабілі гэта даволі даўно. Лічу, частка дэпутатаў, скажам, палова, павінна выбірацца па акругах. Другая палова можа выбірацца ўсім насельніцтвам рэспублікі па спісах. Справа вось у чым. Мажарытарная сістэма добра "працуе", калі ў грамадстве існуюць 2 партыі, як, напрыклад, у ЗША. Калі партый многа, прапарцыянальная сістэма прыводзіць да развіцця палітычных працэсаў, вылучэння тых партый, якія карыстаюцца найбольшым аўтарытэтам. І вось яшчэ што важна. Дапусцім, у грамадстве ёсць 20 працэнтаў людзей, яны прытрымліваюцца іншай пазіцыі, чым большасць. 20 працэнтаў вельмі многа — адна пятая частка. Пры мажарытарных выбарах па любой акрузе не пройдзе кандыдат ад меншасці. Яе думкі, пазіцыі не будуць прадстаўлены ў парламенце. Калі ж выбіраюцца прадстаўнікі ад партыі, тады ствараюцца і фракцыі, праца парламента становіцца працэсам дамаўлення і абмеркавання ўсіх спрэчных пытанняў.

***— І ўсё ж Вярхоўны Савет аддаў перавагу мажарытарнай сістэме, якія планы партыі па ўдзелу ў выбарчай кампаніі?***

— Калі Вярхоўны Савет прыме мажарытарную сістэму выбараў (а гэта найбольш верагодна сёння), мы да падобнага развіцця падзей гатовы. Са жніўня наша партыя працуе "ў масах", будзем весці і падтрымліваць каля 100 кандыдатаў па розных акругах. Лічым, у нас ёсць вельмі сур'ёзныя людзі, прафесійна падрыхтаваныя да работы ў парламенце. Разлічваем, што зможам правесці ў Вярхоўны Савет вялікую колькасць дэпутатаў і стварыць там уплывовую моцную дэпутацкую фракцыю.

***— Ці будзе ўтвораны адзіны дэмакратычны блок, мабыць, у дэмакратычных плыняў ужо***

## Адноўлены судовы разбор паводле іска Зянона Пазьняка да Юрыя Азаронка і Белтэлерадыёкампаніі

"Народная Воля"

6 верасня ў народным судзе Першамайскага раёна Мінска адноўлены судовы разбор паводле іска лідэра БНФ Зянона Пазьняка да аўтара паказанага вясной 1995 года беларускаму тэлегледачу фільма "Нянавісць: дзеці хлусні", рэжысёра Юрыя Азаронка і Белтэлерадыёкампаніі аб абароне гонару і годнасці.

Пасяджэнне суда пачалося з патрабавання суддзі Алы Яшчанкі не рабіць у зале ніякіх відэа- і фотаздымкаў, а таксама пакінуць залу ўсім, каму не хапіла крэслаў у спецыяльна выдзеленым для публікі, "груп падтрымкі" і г.д. месцы. Зала суда аказалася настолькі малой, што некаторым прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі давялося ўладкавацца на... лаве падсудных. Сам жа разбор па справе пачаўся з хадайніцтва адваката Юрыя Азаронка Валерыя Ярчака аб адводзе старшынствуючай у судзе Алы Яшчанкі, якая, па яго словах, "вольна або міжволі ўвайшла ў лік арганізатараў палітычнага працэсу". В.Ярчак абвінаваціў старшынствуючую ў тым, што яна "праявіла зацікаўленасць у вырашэнні справы, парушыўшы ўстаноўлены законам прынцып бесстароннасці, незалежнасці суддзяў, падпарадкаванасці толькі закону".

Амаль дзве гадзіны спатрэбілася членам суда для таго, каб прыняць рашэнне аб адхіленні хадайніцтва Ю.Азаронка і В.Ярчака і прадоўжыць слуханне па справе. Зянон Пазьняк удакладніў прымальную для яго форму аднаўлення свайго гонару і годнасці. "Мне неабходна выступленне па тэлебачанні аўтара фільма, які павінен сказаць: вобраз Пазьняка ў фільме "Нянавісць: дзеці хлусні" створаны прыёмамі відэамантажу і не адпавядае сапраўднасці", -- заявіў лідэр Беларускага народнага фронту.

Неабходна прызнаць, што і ісцец, і адказчык (маецца на ўвазе Ю.Азаронак і яго адвакат) даволі грунтоўна падрыхтаваліся да працэсу. Другі адказчык, прадстаўніком якога ў судзе быў намеснік старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Пётр Раманчук, колькі-небудзь істотнага ўдзелу ў судовым разборы не браў, абмяжоўваючыся кароткімі адказамі. Ю.Азаронак прадставіў суду шэраг архіўных матэрыялаў, у прыватнасці копіі артыкулаў з часопіса "Беларусь на варце", газет "Пагоня" і "Раніца", што выходзілі падчас другой сусветнай вайны. Менавіта на падставе гэтых матэрыялаў, па словах кінарэжысёра, ён і дазволіў сабе параўнаць і зманціраваць у фільме ўрачыстасці 25 сакавіка 1944 і 1945 гадоў. Пасля таго, як Ю.Азаронак заявіў, што падчас работы над фільмам ён не карыстаўся дапамогай якіх-небудзь афіцыйных структур і, у прыватнасці, Адміністрацыі прэзідэнта, адвакат З.Пазьняка Надзея Дударава прадставіла суду "суправаджальны дакумент" за подпісам начальніка Упраўлення грамадска-палітычнай

***сёння ёсць праграма дзеянняў у гэтым накірунку?***

— Я думаю, што дэмакратычныя сілы павінны супрацоўнічаць, нягледзячы на тое, што ім часта перашкаджаюць і асабістыя амбіцыі, і нейкія палітычныя разыходжанні. Прыняты ўжо пэўныя крокі. Некалькі партый, якія ўваходзяць у кансультатыўную нараду дэмакратычных і патрыятычных сіл, доўгі час праводзілі перамовы, выпрацавалі і падпісалі дакумент (ён называецца "Асноўныя прынцыпы стварэння блоку дэмакратычных сіл"). Трэба, каб блок быў не фармальны, а фактычны і працаздольны, пажадана не перашкаджаць адзін аднаму, а дапамагаць.

***— Калі існуюць адрозненні ў стаўленні амерыканскіх улад, напрыклад, да Расіі і Беларусі, наколькі рэалістычна выглядаюць спадзяванні нашых правіцеляў на прыцягненне інвестыцый у нацыянальную эканоміку?***

— Безумоўна, ёсць розніца ў стаўленні афіцыйных улад да Расіі і Беларусі. Сёння Расія мае шэраг праблем, у першую чаргу, нацыянальных, лічыцца вельмі нестабільным рэгіёнам. Ва ўспрыняцце Расіі як нестабільнай дзяржавы ўнесла "ўклад" выбранне людзей з партыі Жырыноўскага ў Думу, яе перамога над іншымі блокамі. Я думаю, такая праблема актуальная і для Беларусі. Але, калі Расія мае плюсы і яны добра ўспрымаюцца на Захадзе, на Беларусі гэткіх плюсоў яшчэ няма. На жаль, некаторыя выказванні прэзідэнта выклікалі даволі стрыманую рэакцыю і, як мы ведаем, прывялі ўжо да таго, што МВФ адмовіў нам у прадастаўленні крэдытаў. Таму і інвестыцыі ў нацыянальную эканоміку могуць быць рэалізаваны толькі пры стабільнай прадказальнай палітыцы, калі апошняя будзе накіравана на правядзенне дэмакратычных эканамічных рэформ.

***— Пайшоў пяты месяц пасля інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі, крытыка дзеянняў ягонай каманды і асабіста прэзідэнта перарастае ў маналітны хор. Як бы Вы ацанілі сацыяльна-эканамічную палітыку новай улады, запас яе трываласці?***

— Ведаеце, я не з'яўляюся прыхільнікам крытыкі дзеля крытыкі, але разумею, як вы кажаце, маналітны хор крытыкаў. Я б не сказаў, што ён маналітны, бо крытыкуюць прэзідэнта за рознае. Аднак, безумоўна, можна пагадзіцца з тым, што палітыка прэзідэнцкай адміністрацыі часта бывае непрадказальнай. Гэта насцярожвае. Бо такая палітыка не можа быць трывалай. А менавіта цвёрдасць і мэтанакіраванасць зараз вельмі неабходныя.

***— Наколькі адпавядаюць рэальнасці сцвярджэнні аб тым, што ў дэмакратычнай апазіцыі ёсць свая праграма па выхаду з крызісу? Ці ёсць падстава чакаць пэўнай карэкцыі сённяшняга курсу з улікам прыярытэтных мэт дэмакратаў і ўвогуле, як, на ваш погляд, будзе паводзіць сябе прэзідэнт у выпадку правалу антыкрызіснай праграмы, ухваленай сённяшнім Вярхоўным Саветам?***

— У дэмакратаў ёсць праграма па выхаду з крызісу. Наша эканамічная мадэль рэформаў распрацавана ў 1992 годзе. Мы прапаноўвалі яе і Вярхоўнаму Савету, і ўраду, у той час яе надрукавалі ў некаторых газетах. Зараз дакумент дапрацаваны. У нас ёсць разуменне, што адбываецца, чаму адбываецца і што трэба рабіць. Справа крыху ў іншым: дзеля складання сур'ёзнай, канкрэтнай праграмы неабходны інфармацыйная база (такая, як ва ўрадзе), сродкі, якія трэба затраціць на прапрацоўку. Але, я думаю, калі дэмакраты атрымаюць дзяржаўную ўладу, яны намнога лепш распарадзяцца ёй, чым тыя, хто не разумее сітуацыі. Тут нават не трэба пачынаць тэарэтычныя спрэчкі, яны не маюць вялікага сэнсу, мы проста бачым вынікі ў тых краінах, якія абралі шлях радыкальных рэформ і дэмакратычных пераўтварэнняў. Сярэдняя зарплата ў Польшчы, напрыклад, набліжаецца да 300 даляраў, а ў нас яна недзе каля 20-ці. Зараз дэбаты не патрэбныя — трэба брацца за справу. Што тычыцца сённяшняга курсу прэзідэнта. Я пра яго ўжо гаварыў. Не хацелася, каб быў поўны правал. Мы не прыхільнікі прынцыпу: чым горш, тым лепш. Але, мяркую, ёсць рызыка, што праграма праваліцца. І тады прэзідэнт, напэўна, пачне шукаць вінаватых. І ўсё ж хацелася б, каб зараз дзяржаўнае кіраўніцтва распрацавала лінію стратэгічную, не проста антыкрызісную. У АДПБ такія стратэгічныя напрацоўкі ёсць. І яшчэ. Галоўнае не само існаванне праграм, а наяўнасць ва ўрадзе асоб, якія ў стане іх рэалізаваць. Яны ёсць сярод нашых кандыдатаў на будучых парламенцкіх выбарах, многія маглі б працаваць і ў выканаўчай уладзе, Кабінеце Міністраў. Патэнцыял дэмакратычнага руху вельмі вялікі, у Беларусі ён пакуль не выкарыстаны, бо рэальнай улады ў дэмакратаў не было.



Др. Вітаўт Кіпель зачытвае пастанову журы аб прысуджэньні прэміі імя Алеся Адамовіча журналісту Анатолю Казловічу за літаратурную журналістыку. Побач прыглядаецца вядомы беларускі пісьменьнік — Васіль Быкаў.

# Міжнародны Кангрэс у Абарону Дэмакратыі

Умястэчку Ісляч /каля Менску/ адбыўся Міжнародны Кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры. Кангрэс быў скліканы Беларускім ПЭН Цэнтрам, старшынём якога зьяўляецца знаны беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. Мотто Кангрэсу было — Незалежная прэса: Свабода і Адказнасьць. На Кангрэсе былі прадстаўлены каля сотні дакладаў, у якіх аналізавалася сёньняшняе становішча прэсы на Беларусі ды падкрэсьлівалася, што цэнзура прэсы, радыё ды тэлебачаньня ў краіне пад спонсарствам прэзыдэнта Лукашэнкі дасягнула нячуванага размаху. У адміністрацыі Лукашэнкі выпрацаваныя ня толькі забароненыя тэмы, але ўкладзеныя сьпісы непажаданых журналістаў, на якіх вядуцца цяглыя напады і якія "забароненыя" ў сродках масавай інфармацыі.

Беларускія інтэлектуальныя кадры, удзельнікі кангрэсу, зьвярнуліся да міжнароднае грамадзкасьці па дапамогу ў справе абароны дэмакратыі ў Беларусі. Ад беларускае эміграцыі ў працах кангрэсу бралі ўдзел ды зачыталі даклады спадарыня Зора Кіпель і Вітаўт Кіпель. На кангрэсе ўпершыню былі ўручаныя, нядаўна ўстаноўленыя літаратурныя прэміі імя Алеся Адамовіча.

Прэмію за літаратурную публіцыстыку атрымаў Анатоль Казловіч /заступнік рэдактара "Народнай волі"/, Павал Шарамет /былы вядучы радыё-тэле-праграмы "Праспект", кінарэжысэры Самсон Палякоў і Ўладзімер Алай, Віталь Цыганкоў /газэта "Свабода"/ і Валянцін Жданко /газ. "Зьвязда"/.

## УНІВЕРСІТЭТЫ ЎВОСЕНЬ ЛІЧАЦЬ

**Радасная вестка прыйшла са сталіцы рэспублікі ў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна: 22 жніўня міністр адукацыі і навукі Беларусі Васіль Стражаў падпісаў загад аб прысваенні старэйшай ВНУ новага статусу. З 1 верасня гэтага года яна пераўтвараецца ў Брэсцкі дзяржаўны універсітэт.**

Як сказаў карэспандэнту Белінфарма прарэктар па навуковай рабоце Уладзімір Плецюхоў, універсітэцкі статус патрабуе больш высокага ўзроўню адукацыі студэнтаў, прыметнага павышэння якасці навучальных планаў і праграм. Акрамя таго, Брэсцкі дзяржаўны універсітэт цяпер зможа адкрываць спецыяльнасці, не звязаныя з педагагічнай адукацыяй. Гэта вельмі важна ва ўмовах рынку, якому патрэбны высокакваліфікаваныя спецыялісты зусім новых сфер дзейнасці.

## Пра Беларусаў у ЗША

У панядзелак 11 верасьня ў канферэнц-залі Дома літаратара адбылася прэзэнтацыя сэрыі кніг "Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва" ў Нью Ёрку "Беларускія пісьменьнікі і паэты на эміграцыі". У імпрэзе бралі ўдзел вядомыя дзеячы беларускай дыяспары ў ЗША — Зора і Вітаўт Кіпелі.

інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна: "Адміністрацыя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь звяртае ўвагу кіраўнікоў усіх дзяржаўных устаноў на ўсялякае садзейнічанне рэжысёру Ю.Азаронку ў стварэнні фільма". Дакумент выклікаў бурную дыскусію паміж суддзёй, адвакатам адказчыка, Н.Дударавай і Ю.Азаронкам.

Завяршылася судовае пасяджэнне 6 верасня праглядам відэаматэрыялу -- копіі фрагмента з фільма "Ненавісць: дзеці хлусні", прадстаўленай істцом, і фрагмента здымак мітынгу 25 сакавіка 1995 года, прадстаўленага адказчыкам. Слуханне справы прадоўжыцца.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ.

## і... Генадзь Карпенка судзіцца з Аляксандрам Лукашэнкам

Відавочна, у чарговы раз прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка атрымае павестку з суда. Цяпер іск яму прад'яўляе дэпутат Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка. Ён патрабуе спагнаць з прэзідэнта два мільярды рублёў за тое, што ён, выступаючы 22 жніўня па Беларускім тэлебачанні, зганьбіў яго гонар, нанёс маральны ўрон.

Перад судом Цэнтральнага раёна г.Мінска стаіць няпростая задача — альбо пацвердзіць словы прэзідэнта, альбо вынесці яму суровае пакаранне. Вядомы ў рэспубліцы парламентарый лічыць заяву А.Лукашэнкі правакацыйнай, скіраванай на дыскрэдытацыю яго як грамадзяніна і дэпутата.

Сапраўды, з вуснаў прэзідэнта зляцела сур'ёзнае абвінавачванне. Той, хто ў той час глядзеў тэлевізар, пачуў: "...Хотел по хлопку сказать следующее. Совсем недавно спецслужба контрразведки обнаружила уже истинных людей, которые препятствовали поставке в Беларусь хлопка. Наши люди, наши политики. Во главе их был известный политик Геннадий Карпенко. Эту фамилию могу назвать впервые..."

Не ведаем, які кампрамат на Г.Карпенку мае А.Лукашэнка, але першы днямі заявіў, што "спецслужбы контрразведкі і духам нічога не ведаюць пра тое, што сказаў прэзідэнт".

Слова — за судом. Два мільярды рублёў — вялікія грошы нават для прэзідэнта.

Барыс СКАКУН.




Малюнак М. ГІРГЕЛЯ.

## БАБРУЙСКІ ПІЎЗАВОД РАЗЛІЧВАЕЦЦА СА СВАІМІ РАБОЧЫМІ... СПІРТАМ

**Зараз на многіх прадпрыемствах рэспублікі зарплату выдаюць уласнай прадукцыяй, што ва ўмовах эканамічнага крызісу можна зразумець.**

Але калі на Бабруйскім піўзаводзе зарплату пачалі выдаваць спіртам, запратэставала мясцовая міліцыя, работы якой значна прыбавілася.

НАША ГАЗЭТА ВЫДАЕЦЦА
ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ...
*КАЛІ ЛАСКА,*
*ПАДТРЫМАЙЦЕ НАШУ ГАЗЭТУ!..*

"Наш калгас "Чырвоны лапаць"
У кнігу Гінеса папёр:
Грошай пяць гадоў не плацяць
І ніхто йшчэ не памёр".



***Чацвёрты і, мабыць, апошні раз беларусы маюць магчымасць у гэтым годзе адзначыць як дзяржаўнае свята Дзень Незалежнасці. Наўрад ці будуць у гэты дзень нейкія прыкметныя афіцыйныя ўрачыстасці, бо Свята Незалежнасці, на жаль, не з'яўляецца сапраўдным святам сённяшніх кіраўнікоў краіны. Не ўсведамляецца яно як нацыянальнае свята і большасцю насельнікаў Беларусі, якія нядаўна ў ходзе рэферэндуму падтрымалі антынацыянальную па сутнасці палітыку.***

"КУЛЬТУРА"

# РОЗДУМ З НАГОДЫ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Падтрымалі, не зважаючы на тое, што апошнім часам практычна нічога не зроблена для паляпшэння жыцця народа. Эканамічны крызіс паглыбляецца. Працягваецца спад вытворчасці. Каля 80 працэнтаў прамысловых прадпрыемстваў знаходзяцца на грані банкруцтва. Расце беспрацоўе, схаванае (частковае — вымушаныя адпачынкі) і поўнае. Месяцамі не выплачваецца заработная плата. Больш за палову насельніцтва не мае пражытачнага мінімуму. На грані краху сістэма народнай эдукацыі, аховы здароўя. Аднак ніякія эканамічныя рэформы не праводзяцца.

Працягваецца рост злачыннасці, адкрытых разбояў бандыцкіх шаек на аўтамагістралях, чыгунках, гарадскіх і вясковых вуліцах. Не ратуюць ад іх нават сцены ўласных дамоў і кватэраў. Нічога рэальнага не зроблена па выкараненні карупцыі ў дзяржаўным апараце, па гэтых справах ніхто з відных чыноўнікаў не прыцягнуты да судовай адказнасці. Як ацаніць гэта, калі ўспомніць, колькі слоў было сказана пра бескампрамісную барацьбу з карупцыяй і мафіёзнымі структурамі ў органах дзяржаўнай улады?

Разам з тым да канца раскрылася антыбеларуская сутнасць сённяшняй дзяржаўнай палітыкі. Праведзены рэферэндум "узаконіў" манапольнае панаванне ў Беларусі мовы суседняй краіны, асудзіў на выміранне беларускую мову і нацыянальную культуру, скасаваў спрадвечныя нацыянальна-дзяржаўныя сімвалы і аднавіў з неістотнымі карэктывамі надуманую сімволіку камуністычна-таталітарнага рэжыму, які за доўгія дзесяцігоддзі свайго панавання давёў беларускі этнас да мяжы знікнення, ператварыў большасць насельніцтва Беларусі ў русіфікаваных манкуртаў, што называліся на Захадзе "homo soveticus", а ў СССР — "савецкі народ".

Сваім падкрэсленым непрыняццем беларускай мовы вышэйшае кіраўніцтва дзяржавы падштурхоўвае ўвесь велізарны чыноўніцкі корпус Беларусі зверху да нізу карыстацца рускай мовай — нават насуперак жаданню асобных прадстаўнікоў апошняга, паколькі публічныя выступленні па-беларуску ў такіх умовах успрымаюцца як палітычная апазіцыя афіцыйным уладам, як прыкмета "беларускага нацыяналізму". Ці задумваюцца нашы кіраўнікі, які рэзананс гэта мае ў грамадстве, як уплывае на адносіны да беларускай мовы пры выбары бацькамі мовы навучання сваіх дзяцей у школах, на лёс нацыянальнай школы? Гэта і ёсць роўнасць моваў? Тэзіс рэферэндуму аб наданні рускай мове ў Беларусі роўнага статуса з беларускай выглядае ў гэтай сітуацыі абсалютна фальшывым, дэмагагічным, здзеклівым. Цяпер шматлікія чыноўнікамі беларуская мова пастаўлена ў Беларусі фактычна па-за законам — насуперак Канстытуцыі і Закону аб мовах, якія ніхто не адмяняў.

Адначасова аб'яўлена "вайна" новым вучэбным дапаможнікам па гісторыі, напісаным і выдадзеным у 1992 — 1993 гг. у незвычайна сціслыя тэрміны, паколькі сітуацыя ў школе з вывучэннем гэтай дысцыпліны пасля распаду СССР і краху камуністычнага эксперыменту ў глабальным маштабе была ў поўным сэнсе крытычнай. Аднак замест падзякі аўтарам і выдаўцам улады без усялякіх доказаў ацэньваюць дапаможнікі як "нацыяналістычныя" і заяўляюць, што іх "трэба выкінуць у макулатуру". Абурае іх тое, што гісторыя Беларусі ў гэтых кнігах упершыню пасля 20-х гадоў выкладаецца з нацыянальна-дзяржаўных, беларускіх пазіцый. Улады не прымаюць іх і відавочна выступаюць за захаванне ў сістэме гістарычнай адукацыі Рэспублікі Беларусь расійска-вялікадзяржаўніцкай канцэпцыі нашай айчыннай гісторыі.

Тут неабходна адзначыць, што ў сваёй аснове гэтая канцэпцыя была распрацавана расійскімі гісторыкамі афіцыйнага напрамку ў XVIII—XIX стст. У пачатку 30-х гадоў па ініцыятыве Сталіна савецкія гісторыкі поўным чынам мадэрнізавалі яе, спалучыўшы з догмамі бальшавізму. У 40 — 80-я гады метадалагічны гібрыд карэктаваўся ў адпаведнасці з палітыкай кіраўніцтва КПСС, але ў сутнасці сваёй заставаўся нязменным і цалкам вызначаў змест савецкай гістарыяграфіі і гісторыі Расіі — СССР і БССР. Ён поўнасцю адлюстроўваў установкам ідэалагаў КПСС—КПБ на зліццё моў, культур і народаў і стварэння ў СССР рускамоўнага, выхаванага ў камуністычна-імперскім духу савецкага народа як новай гістарычнай супольнасці людзей. У беларускай савецкай гістарыяграфіі нацыянальныя гістарычныя каштоўнасці і дзеячы былі амаль цалкам выкінуты і заменены іншымі "героямі", якія нярэдка душылі імкненні нашага народа быць гаспадаром у сваёй краіне. У нас шмат дзесяцігоддзяў насаджалася па сутнасці антынацыянальная канцэпцыя айчыннай гісторыі, якая і прычыніласа да фальсіфікацыі гістарычнай памяці некалькіх пакаленняў людзей, да распаўсюджання нацыянальнага нігілізму і манкуртызму. Іначай і не магло быць. Бо беларускі народ паказваўся фактычна як гістарычна непаўнацэнны, няздольны самастойна супрацьстаяць больш моцных суседзяў, абараніць сваё жыццёвыя інтарэсы, быць гаспадаром свайго лёсу і сваёй краіны, як народ, які быццам бы на працягу стагоддзяў толькі сніў і марыў аб аб'яднанні са "старэйшым братам", г.зн. з царскай Расіяй.

Аўтары новых дапаможнікаў па гісторыі Беларусі зыходзілі з таго, што суверэнная дзяржава, якой абвясціла сябе Беларусь у пачатку 90-х гадоў, немагчыма надалей захаванне антынацыянальнай па духу канцэпцыі айчыннай гісторыі, бо гэта відавочны нонсэнс. У сапраўдных суверэнных дзяржавах такой з'явы ніколі не было і няма. Расійскія, польскія, нямецкія, французскія, англійскія (і г.д.) гісторыкі спрадвеку асвятляюць гісторыю сваіх краін і народаў з адпаведных нацыянальна-дзяржаўных, патрыятычных пазіцый. І нікога гэта не шакіруе. Бо кожны цывілізаваны народ мае сваю нацыянальную гістарыяграфію, якая адлюстроўвае менавіта яго гістарычную памяць, яго пагляд на ўласны гістарычны шлях і ўзаемадачыненні з іншымі народамі і краінамі. Бо нацыянальная гістарыяграфія з'яўляецца асновай нацыянальнай самасвядомасці кожнага народа і адным з краевугольных камянёў у падмурку дзяржаўнага суверэнітэту любой краіны. Улады Беларусі, на жаль, думаюць і дзейнічаюць інакш. І гэта яшчэ раз сведчыць, што яны ўсур'ёз рыхтуюць палітычнае аб'яднанне Беларусі з Расіяй, ліквідацыю дзяржаўнага суверэнітэту нашай краіны.

Цвёрда засвоіўшы прарасійскую інтэрпрэтацыю гісторыі Беларусі, наша кіраўніцтва спрабуе даказаць, што беларускі народ без аб'яднання з Расіяй не зможа выжыць. Не зважаючы на відавочнае нежаданне кіраўнікоў Расіі ўзяць на сваё ўтрыманне Беларусь, улады з дзіўнай настойлівасцю праяўляюць імкненне "здаць" сваю краіну пад апеку "старэйшага брата". Гэта — idée fixe іх палітыкі. Стаўка на свой народ, на разгортванне яго ініцыятывы адкідаецца. А яна, як сведчыць гістарычны вопыт,— адзіна правільны арыенцір у палітыцы. Правільнасць менавіта такога курсу ў сучасных умовах пацвярджае прыклад краін Балтыі, эканоміка якіх была не менш цесна "завязана" на Расію, чым наша. Можна з абсалютнай упэўненасцю сцвярджаць, што ніякі "чужы дзядзька" ці нават "старэйшы брат" не возьме на сябе цяжкі груз нашых праблем з пачуцця альтруізму. Толькі сам народ, адчуўшы і ўсвядоміўшы сябе гаспадаром свайго лёсу і сваёй краіны пры дасведчаным і сумленным кіраўніцтве зможа пераадолець сучасны глыбокі сацыяльна-эканамічны, палітычны і духоўны крызіс, спыніць падзенне Беларусі ў бездань бязладдзя і хаосу і выйсці на светлы шлях Адраджэння.



Рэальна ў Беларусі працягваецца збанкрутаваная палітыка ўрада В.Кебіча. Як пры ім, шырока прапагандуюцца шкодныя ілюзіі наконт асаблівых адносін з Расіяй у якасці панацэі ратавання краіны. Можа, хопіць тлуміць розум народа, гасіць у зародку народную ініцыятыву ў вырашэнні ўласных праблем, узмацняць у масах насельніцтва ўтрыманскія настрої? Але няма надзеі на тое, што цяперашняе кіраўніцтва развеіць гэтыя ілюзіі, заявіць аб поўнай іх беспадстаўнасці і шкоднасці, прызнае ў прынцыпе арыентацыю на знешні фактар як шлях да выхаду з крызісу памылкай і заканадаўча праз парламент забяспечыць развіццё народнай ініцыятывы ў вырашэнні гаспадарчых, палітычных і культурных праблем, напоўніцу выкарыстоўваючы пры гэтым наша вельмі выгаднае геапалітычнае становішча, уласныя прыродныя рэсурсы і інтэлектуальны патэнцыял нацыі.

Формула "народ — гаспадар сваёй краіны" можа быць рэалізавана толькі пры ўмове захавання і ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Гэта — аснова для кансалідацыі народа. Умацаванне ж нашага суверэнітэту, ператварэнне Беларусі ў прававу сацыяльную дзяржаву тыпу Швецыі, Фінляндыі і падобных да іх еўрапейскіх краін, дасягненне сацыяльна-эканамічнага і духоўна-культурнага ўздыму немагчыма без выхавання грамадзян у духу нацыянальна-дзяржаўнага патрыятызму, без пераадолення цяжкай хваробы нацыянальнага нігілізму — пагардлівых адносін да роднай мовы, нацыянальнай культуры, апрабаваных жыццём спрадвечных нормаў маралі, традыцый і звычаяў свайго народа. Бо нацыянальны нігілізм, які паразітуе на гістарычным бяспамяцтве, манкуртызме і касмапалітычнай маскультуры, няўхільна вядзе да маральнай дэградацыі грамадства — імклівага росту бездухоўнасці, спажывецкіх настрояў як жыццёвага ідэалу, разбэшчанасці, п'янства, наркаманіі, злачыннасці, што адпаведным чынам праяўляецца ў адносінах людзей да дзяржавы, сям'і, працы, прыроды.

Не верыцца, што кіраўніцтва краіны не ўсведамляе глыбіннай узаемазалежнасці сацыяльна-эканамічнага і духоўна-культурнага крызісу нашага грамадства, што нельга выйсці з першага, не пераадольваючы другі (нацыянальны нігілізм) і не ўмацоўваючы суверэнітэт Беларусі. Аднак правядзенне рэферэндуму сведчыць, што гэта, на жаль, — факт.

Формула "Народ — гаспадар сваёй краіны і каваль свайго шчасця" рашуча адкінута. Зроблена стаўка на ўтрыманства. Такая палітыка будучыні не мае. Абнадзейвае тое, што ў ходзе рэферэндуму выявілася не менш мільёна нацыянальна свядомых грамадзян. Думаецца, што яны стануць ядром кансалідацыі народа і змогуць забяспечыць захаванне дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

**Міхась БІЧ,**
**доктар гістарычных навук**

## На лячэньне ў Амэрыку з Беларусі

Нядаўна з Менску прыляцеў на лячэньне ў Грэд Рэпідс, Мічыган 10-ці гадовы хлапчук, Уладзімір Курэйчык. Ён мае 4 розныя дэфэкты сэрца. Цяпер вядзецца падрыхтоўка да вельмі складанай апэрацыі, якая паводле спэцыялістаў будзе доўжыцца ад 8 да 10 гадзін. Апэрацыя назначана на 12 кастрычніка. Аб выніках апэрацыі памядомім пазьней...

Александр СТАРИКЕВИЧ, «Известия»

# Александр Лукашенко осуждает подписантов Беловежских соглашений

Не перестает удивлять общественность белорусский президент. На этот раз сенсацией стали его откровения красноярскому тележурналисту, где он весьма резко высказался в адрес Бориса Ельцина.

Говоря о трех «беловежских зубрах», Александр Лукашенко заявил буквально следующее: «Эти люди в разной степени будут прокляты. Я осуждаю Ельцина за участие в Беловежской пуще». Глава Белоруссии изложил также оригинальную версию вискулевских событий. По его мнению, «ярый националист Шушкевич и ярый националист Кравчук» потребовали от Ельцина уступок в виде выхода из Советского Союза. Вспоминая свою реакцию, Лукашенко сказал: «Я нутром прочувствовал: свершилось страшное».

Нынешнюю оппозицию себе Александр Лукашенко назвал «отребьем» и заявил, что в случае ее победы на выборах планировался «полный геноцид к двухмиллионному русскому населению в Белоруссии». Лидера партии народного согласия Геннадия Карпенко президент обвинил в препятствовании поставкам хлопка в республику из Узбекистана, сославшись при этом на данные контрразведки.

По традиции еще одной коронной темой белорусского президента стали средства массовой информации. Лукашенко сокрушался, что «Комсомольская правда», поддержавшая его в те времена, когда «в Белоруссии был один реформатор — Лукашенко», ныне опубликовала ряд негативно характеризующих его статей. По этому поводу он добавил, что «в России сегодня ничего бесплатно не напечатают».

В качестве гонорара Лукашенко предложил интервьюеру: «Я попрошу, чтобы вас бесплатно водкой белорусской угостили за мой счет». Интересно, что представителю красноярских телекомпаний Геннадию Николаеву удалось добиться аудиенции у белорусского президента в течение суток, хотя обычно на это требуется значительно больше времени. Видимо, Лукашенко очень захотелось высказаться.

Отрывок из интервью, где речь шла о срыве поставок хлопка, был показан по Белорусскому телевидению, после чего Геннадий Карпенко подал в суд иск о защите чести и достоинства, а также о возмещении морального вреда на сумму 2 миллиарда рублей. Остальные откровения главы Белоруссии пока остаются неизвестными широкой общественности. Предполагается, что смонтированный вариант беседы будет показан по Белорусскому телевидению 25 августа.

Из других белорусских новостей отметим, что выпущен на свободу парламентарий Сергей Антончик. Сотрудники КГБ в беседе с депутатом обосновали правильность его задержания якобы существующим президентским указом о снятии депутатского иммунитета с представителей депутатского корпуса всех рангов. Со ссылкой на этот же документ к административному аресту на 10 суток приговорен депутат местного совета, председатель свободного профсоюза Белоруссии Геннадий Быков. Однако вечером 23 августа белорусское радио опровергло сведения о существовании такого указа.

МИНСК.

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

В. Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра Вам дзякую за прысыланьне газэты "Беларускі Дайджэст". Удала падбіраеце матэрыялы. Таксама вонкавы выгляд Вашай газэты, на мой погляд, дасканалы.

Жадаю, каб Ваша газэта даходзіла да ўсіх беларусаў на эміграцыі. Вам, дарагі спадару, жадаю як найболей сілы і вытрымаласьці ў Вашай пачэснай працы. Пры гэтым залучаю ахвяру на Вашу газэту.

З пашанаю да Вас астаюся М. П-ч

*Дзякую за прыемныя словы і ахвяру. Пры гэтым хочацца зазначыць, што цяжка працаваць сярод людзей, большасьць якіх маласьвядомыя, са спадчынай рабства, вечнаю падазронасьцю і нявераю ў свае і свае сілы... Узяць-бы для прыкладу Канаду... Вы ведаеце, колькі беларусаў у гэтай краіне чытаюць нешта беларускае?! Сорамна казаць...*

*Жадаю Вам і Вашай сямейцы ўсяго найлепшага!*

Паважаны Мікола!

Хіба ўжо месяц, як зьбіралася напісаць ды ўсё былі нейкія перашкоды. А час ляціць маланкай.

Хачу падзяліцца некаторымі цікавымі артыкуламі, як др-а Мацея Смаршчка з Мінесоты, які сапраўды заслугоўвае на пахвалу, а другі з "Сандэй Тэлеграф" з Лёндану, Англія, на які я выслала адказ... Далучаю таксама артыкул з нашае мясцовае газэты і два з украінскае прэсы. Украінцы заслугоўваюць на словы падзякі за іх абарону беларускае справы...

"Беларускі Дайджэст" атрымалі ў першую сыботу, 16-га верасьня. Як заўсёды вельмі цікавы. Дай Бог Вам вытрымаласьці на выдавецкай ніве. Залучаем ахвяру на падтрыманьне выдавецкае дзейнасьці...

З пашанай, В. Р.

*Дзякую за ахвяру і вельмі цікавыя артыкулы. Адзін з украінскае газэты пастараюся зьмясьціць у наступным №. Было-б вельмі добра, каб Вы пачалі пісаць у нашу газэту. Тэмаў-жа хапае...*

В. Паважаны Спадар Прускі!

Дужа дзякую за "Дайджэст". Я рады, што ёсьць яшчэ людзі, якія не зьняверыліся. Высылаю ахвяру на выдавецкі фонд...

Ізноў-жа, моцна дзякую Вашэці за беларускія газэты. Жыве яшчэ Беларусь!

З пашанаю, М. С.

*Шчыра, шчыра дзякую за гойную ахвяру. Я таксама больш чым веру, што Беларусь будзе незалежнаю дзяржавай і поўнасьцю адродзіцца... але дзеля гэтага трэба працаваць і яшчэ раз працаваць. Я нізка схіляюся перад Вашаю высокакультурнасьцю, дабрачыннасьцю і вялікім патрыятызмам.*

В. Паважаны Сп. М. Прускі!

Шчыра дзякую за прысыланьне мне газэты, якую я з прыемнасьцю чытаю. Перасылаю Вам скромную ахвяру на "Беларускі Дайджэст". Жадаю ўсяго добрага ў Вашай дзейнасьці.

З глыбокай пашанай да Вас астаюся, М. Т.

*Дзякую за ахвяру і добрыя словы. А я са свайго боку выкручваюся як магу, каб газэта своечасова і стала даходзіла да чытачоў. Газэта патрабуе новых ахвярадаўцаў і чытачоў. Перасылайце адрасы тых, хто ўмее і хоча чытаць нашу газэту.*

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую, што прысылаеце мне газэту "Беларускі Дайджэст". Газэта вельмі цікавая, бо друкуе для нас найбольш цікавыя весткі, — што цяпер робіцца на Беларусі. Перасылаю Вам ахвяру. Прабачце, што так доўга заняло пакуль злажыў ахвяру на газэту, але, як кажуць, лепш позна чым ніколі.

З пашанай, Ж. Н-к.

*Просім Вас і далей дапамагаць нашай газэце. Заахвочвайце гэта рабіць і сваіх знаёмых. За ахвяру дзякуем.*

В. Паважаны Сп. Прускі!

Перасылаю Вам выразку з турэцкай газэты "Turkish Daily News". Вось бачыце які прыйшоў час: калісьці бедная Турэччына, цяпер імкнецца дапамагчы Беларусі. Спадзяюся, што Вам будзе цікава прачытаць гэты артыкул.

Ваш, Я. Б.

*Дарагі Спадар Б. Для мяне ня толькі цікава прачытаць гэты артыкул, але я пастанавіў апублікаваць яго ў нашай газэце. Спадзяюся, што час пабыту ў Турэччыне быў прыемным і карысным. Трымайцеся і ўсяго найлепшага!*

Паважаны Спадар Прускі!

Дзякую за дасылку "Дайджэста". Залучаю ахвяру... Некалі я таксама быў выдаўцом... Пакойнік Попка мне казаў, што ніхто з беларусаў гэтага чытаць ня будзе. А я яму казаў, — чужынцы будуць... Ён быў вялікім патрыётам, але з інтэлектам сельскага ўзроўню... На маё выдавецтва пайшло многа грошай...

Цяпер я страшна слабы, ледзь хаджу, набралася шмат розных недамаганьняў... Дочкі (тры) даўно пайшлі з дому "на свой хлеб", — адна з іх нават доктар біялогіі... Зараз стараемся дапамагаць Беларусі ўсім чым можам, а гэта каштуе вялікія грошы.

Бяда, што да ўлады на Беларусі дайшлі чужыя людзі, — яны хочуць зрабіць Беларусь маскоўскаю правінцыяй. Дурныя ня бачаць, што сама Расея стаіць кортака перад фінансавай катастрофай. Разумныя палітыкі ўзялі-б гэта пад увагу...

Віншую Вас за ўдалае выдавецтва, Ваш У. С.

*Старасьць ня радасьць, але трэба мужна трымацца, бадзёрыцца і чуцца маладым. Дзякуем за ахвяру і жадаем усяго найлепшага, асабліва моцнага здароўя. Пішыце, бо пісаць Вам ёсьць аб чым.*

(Далей глядзі на наступнай стар.)

# Беларускі нацыяналізм. Ці ёсць ён?

— Народная газета

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**

*Роднага ж краю*
*тутэйшыя людзі*
*Ў скуру чужацкую*
*лезуць жыўцом.*
*Янка Купала*



На працягу апошніх гадоў у некаторых расійскіх сродках масавай інфармацыі, у выступленнях палітыкаў суседняй краіны, як і ў заявах асобных нашых парламентарыяў, прадстаўнікоў улады, самых розных змагароў за вяртанне СССР, прад'яўляюцца прэтэнзіі беларусам у нацыяналізме. З другога боку, нацыянальна свядомая частка нашага народа сцвярджае, што ў Беларусі няма рашучага зруху да пабудовы суверэннай дзяржавы, да адраджэння, усюды чыняцца перашкоды на гэтым шляху.

Што і казаць, па мерках цывілізаванага жыцця сусветнай супольнасці, і адно, і другое абвінавачванне — рэч вельмі сур'ёзная. Але толькі тады, калі яны падмацаваны перакануўчымі, канкрэтнымі фактамі. Дык давайце ж, шаноўныя чытачы, разам прааналізуем нашу гісторыю, рэаліі сённяшняга быцця і высвятлім: што ж адбываецца на Беларусі? Ці ёсць тут нацыяналізм?

Развіццё гісторыі кожнага народа адбываецца ў сваіх спецыфічных умовах — спрыяльных або няспрыяльных. У Беларусі склалася сапраўды беспрэцэдэнтная сітуацыя. Агульнавядома, што за апошнія стагоддзі расійскі і польскі шавінізм, а затым і бальшавізм добра папрацавалі на тое, каб вынішчыць у беларусаў нацыянальную гістарычную і духоўную памяць. Ім многае ўдалося. Бясспрэчна, што нідзе ў свеце няма такога народа, каб многія прадстаўнікі яго так зацята ненавідзелі айчынную гісторыю, родную мову і культуру, саміх сябе, так апантана змагаліся супраць набытай дзяржаўнасці.

Цяпер на Беларусі ёсць такая завядзёнка — не шанаваць сваіх прарокаў. Многія прадстаўнікі нашага народа глухія, абыякавыя да духоўнага наказу, запавету вялікіх папярэднікаў, да шчымлівых, напісаных крывёю сэрца слоў Ф.Скарыны, Ф.Багушэвіча, Цёткі, Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, М.Гарэцкага. Манкуртызаванаму люду мілей чужое, яно ўспрымаецца, здаецца, больш важным і разумным. Ведаючы гэта, пакарыстаемся выказваннямі пра гістарычны шлях Беларусі вядомага рускага вучонага Пятра Бяссонава, які ў 1871 годзе ў прадмове да надрукаваных ім кнігі "Беларускія песні" пісаў: "... народность Белорусская оказала замечательную крепость и живучесть основных начал, разносторонность развития, покоряющую влиятельность и свободную общительность своих сил. Она умела на равных правах ужиться с такими, еще сильными в то время или тогда уже сильными, народностями и племенными ветвями, как Литовская, Польская, Еврейская и даже Немецкая... Не покоряя их оружием внешним, напротив, часто сама покоряемая и покорная, она постоянно то боролась с ними для дружного единения, то дружилась для внутренней, самоопределяющей, борьбы, и постепенно, шаг за шагом, успевала побеждать своим духовным, нравственным, словесным, творческим, бытовым, гражданским, образующим и просвещающим влиянием. Про нее-то можно сказать со справедливостью, что в сем деле не сдала она ни пяди земли, ни камня своего здания: напротив, создала землю и целый край, возвела с основ свое великое здание. Язык свой наложила она на большую часть других представительных народностей, с языком грамоту, с тем и другим мир воззрений, а с сим посредствующим проводником все прочие самобытно-цивилизующие начала: на домашнюю беседу, на общественную речь, на письмо всех гражданских и даже отчасти государственных дел, на первые училища, на слово и песнопение церкви. Народный обряд ее стойко удерживал свою необыкновенную, еще при-Дунайскую и за Дунайскую древность; народный обычай развивался беспрепятственно и до подробностей; творчество кипело обильными силами; песнею и стихом, не широкими и не длинными, а в тысяче видов, с изящным и частию шутливым характером, оглашался весь этот видимый и невидимый образ жизни народной: довольно сказать, что Слово о Полку Игореве без нея убавилось бы на треть..."

Прашу прабачыць за даволі доўгую цытату, але не магу абмінуць і гэтыя, вельмі важныя для разумення як трагізму нашага лёсу, так і надзеі на лепшую будучыню беларусаў, словы рускага вучонага: "... Белая Русь обняла, сомкнула и соединила, определила и обособила свою землю, целый и обширный Край от Двины до Немна и в промежуточном побережье, от границ Польских в Королевстве и под Короной до Псковских, Новгородских, Смоленских, где вдавалась в Великую Русь под самый Можайск, на Юг же еще дальше по течению рек, особенно Днепра, через Волынь и Черниговскую область постепенными переливами сливаясь с Малою Русью. До сих пор, вступая внутрь этих пределов Края, который недавно принято называть хотя не совсем точно, Северо-Западным Русским краем, как ни отяжелела над ним рука последних столетних событий, видишь, слышишь и чувствуешь всюду, что здесь точно существуют, не надуманы и не начертаны только, географические или государственные границы; что внутри их есть действительная особенность изнутри себя их очертавшая; что здесь своя почва, свое племя, свой народ... И что замечательно: как ни орудовали прежде суровые Литовцы, сколько ни пановали Поляки, как ни расплодились, ни набрались и не разбогатели после них Евреи, сколько ни расцвели новые надежды старых Немецких захватов, — мы убеждаемся на каждом шагу, что все эти племена, народности, языки, бытовые единицы и веры сдерживались некогда в равновесии чьей-то иною верховною рукою; что равновесие поколебалось от ея ослабления и оскудения, поколебалось, но еще не уничтожилось во всех, и ярких, следах своих; что народная история видела здесь главенство другое и судьба народная готовила господство для народности другой, не той, которая царствовала недавно, а той, которая гораздо прежде правила и направляла. ... Этот народный мир и период Белорусский не достиг одного завершения своему зданию: **государства и государственности**".

Запомнім гэтыя словы ды звернемся цяпер да бліжэйшых па часе падзей. Сёння душа беларускага народа надта падобная на нашу знявечаную і засмечаную зямлю. Цяжка зямлі, якая спаласавана невуцкай меліярацыяй, засыпана чарнобыльскімі радыенуклідамі, нашпігавана атрутаю, хімічнымі адходамі, нітратамі, але не лягчэй пачуваецца і народнай душы, інфіцыраванай вірусамі нацыянальнага нігілізму, палітычнай і сацыяльнай апатыі, калектыўнай абыякавасці і пустадомства, а таксама бацыламі класавай нянавісці, барацьбы з "ворагамі народа", татальнага страху. Так, страху, які і сёння скоўвае розум і волю народа. Відаць, нідзе ў былых саюзных рэспубліках, акрамя Украіны, не было такога масавага знішчэння людзей у дваццатых, трыццатых і пасляваенных гады на падставе "нацыяналізму", як у Беларусі. Пад прыцэл трапілі самыя лепшыя прадстаўнікі народа, прытым не толькі інтэлігенцыя, а і рабочыя, сяляне. Да 1938 года, пра які пойдзе гаворка, ужо былі расстраляны, сасланы на Поўнач, у Сібір, на Калыму дзесяткі тысяч нацыянальна свядомых беларусаў. Але сталінскім і мясцовым катам хацелася знішчыць прарокаў, самых вядомых абаронцаў беларускасці. Вось вытрымкі з дакладной запіскі сакратара ЦК КП(б) Беларусі П.Панамарэнкі "О белорусском языке, литературе и писателях" ад 21 лістапада 1938 года, адрасаванай Сталіну: "Наиболее крупную контрреволюционную, националистическую работу провел союз "советских" писателей Белоруссии, идейно возглавляемый всегда десятком профашистских писа-

телей (в том числе известные Янка Купала и Якуб Колас) и всегда для прикрытия (в том числе и сейчас) имевший у руководства коммунистов. ... Здесь был центр-штаб национальной фашистской пропаганды. ... Янка Купала пустил крылатое выражение "пока живе мова, живе народ".

... По количеству и качеству изобличающего материала, а также по известным фактам их работы они, безусловно, подлежат аресту и суду как враги народа.

В частности Нарком внудел Белоруссии запросил из центра санкции на арест Купалы и Коласа уже давно, но санкция пока не дана. ... Их нужно или арестовать, или, учитывая обстановку, принять, поговорить открыто, показать, нам известны все их "ошибки"..."

Чытаеш і бачыш, як праз непісьменнасць, суконнасць гэтых радкоў праступае кроў. Ды што тут каменціраваць! Яшчэ і нашы ўнукі будуць прахопліваацца сярод ночы ў халодным поце ад гулагаўскага і курапацкага жаху, які на доўгія гады атруціў жыццё беларусаў, перадаўся ім у спадчыну ад старэйшых пакаленняў.

Дыягназ зацяжной, цяжкай хваробы пацвярджаюць рэаліі палітычнага, эканамічнага, грамадскага і духоўнага жыцця сённяшняй Беларусі. Не прымаюцца рашучыя захады па ўмацаванню дзяржаўнасці. Паралізавана эканоміка. Пад шумок парламенцкіх баталій, шматлікіх дэмагагічных заяў уладных структур раскрадаецца народнае багацце, узмацняюцца карупцыя, спекуляцыя, не бачаныя раней маштабы набыло хабарніцтва. Імкліва расце злачыннасць. Тэрыторыя Беларусі стала інтэрнацыянальнай крымінагеннай зонаю. Катастрафічна пагоршыўся жыццёвы ўзровень большасці людзей, многія з іх знаходзяцца сёння на мяжы галоднай смерці. Не спыняецца раскол грамадства на "нашых" і "нянашых".

Праз расійскія тэлеканалы, друк, якія ўладараць у інфармацыйнай прасторы Беларусі і пастаянна ўмешваюцца ва ўнутраныя справы незалежнай дзяржавы, праводзіцца актыўная праімперская агітацыя насельніцтва. Такія ж заклікі гучаць у нашым парламенце, у выступленнях кіраўнікоў самых розных узроўняў, у перадачах нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, у безлічы мясцовых друкаваных "органаў". Узмоцнена мусіруецца пытанне пра наданне рускай мове статуса дзяржаўнай, пра скасаванне Сцяга і Герба краіны, а зараз і пра ўз'яднанне Беларусі з Расіяй. Актыўна сабатуецца працэс нацыянальнага адраджэння, які яшчэ толкам і не пачаўся.

Прыведзеныя факты вядомыя кожнаму насельніку Беларусі, абвергнуць іх немагчыма. Шчыра скажам — сітуацыя невясёлая і набліжаецца да трагічнай. І ўзнікае пытанне: дык хто ж робіць усё гэта? Няўжо нацыяналісты? Няўжо гэта яны паставілі сабе задачу ператварыць сваю дзяржаву ў калонію, у прахадны двор, давесці да канца манкуртызацыю свайго народа? Няўжо гэта яны раскрадаюць народнае багацце або забіваюць людзей? Не! Такія абвінавачванні можа прад'явіць ім толькі хворы на розум чалавек.

А нацыянальна свядомая частка нашага народа гаворыць: "У чым жа вы, ваяўнічыя апаненты, бачыце беларускі нацыяналізм? Можа, у тым, што да гэтага часу ў сталіцы і іншых гарадах нашай дзяржавы няма ніводнай беларускамоўнай школы, тэхнікума, ВНУ? Ці ў тым, што пасля вядомага выступлення Прэзідэнта ў педагагічным універсітэце паўсюдна бацькі пачалі пісаць заявы аб адкліканні дзяцей з беларускамоўных класаў, а выкладчыкі ВНУ адмаўляюцца чытаць лекцыі на роднай мове, што яны паспяхова рабілі ў апошнія гады?

А можа, у тым, што самыя высокія кіруючыя пасады ў розных сферах у пераважнай большасці займаюць прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, а не беларусы, якім пакінута месца ля станка і ў полі (раім прагледзець статыстычныя звесткі па горадзе Мінску)?

Або ў тым, што беларускія хлопцы пакуль што яшчэ не гінуць на чэчэнскай вайне і ў іншых ваенных канфліктах, у якія імкліва ўкручваецца Расія?" Такіх пытанняў "нацыяналісты" могуць задаць сотні, і паспрабуйце адказаць на іх!

А цяпер разгледзім нейкую канкрэтную праблему, скажам, моўную, больш падрабязна. Тры гады назад вядомы дзеяч рускай культуры Дзмітрый Ліхачоў пісаў: "Если мы заговорили о русском языке, то нельзя не сказать с большим сожалением, что особенно в последнее время русский язык стал портиться, беднеть, терять свои богатства. Кажется, именно сейчас стал особенно актуальным вопрос о защите русского языка, о его охране. Это в интересах не только русских, но и всех, кто пользуется и будет еще долго пользоваться русским языком наряду со своими родными". Падзяляючы яго боль за сваю мову і прымаючы вызначаны ім статус карыстання ёю ў былых рэспубліках СССР "наряду со своими родными", бо ад гэтага нікуды не дзенешся, такія рэаліі постсавецкага жыцця, нельга не выказаць наступнае меркаванне — калі шаноўны акадэмік забіў трывогу пра стан рускай мовы ў Расіі, дзе яна была і застаецца поўнаўладнай гаспадыняю, то што тады казаць пра сітуацыю з беларускай мовай у Беларусі? Тут ужо немаведама ў якія званы трэба біць, каб яе ўратаваць!

Але хачу сказаць колькі слоў і пра рускую мову ў Беларусі. У выніку татальнай русіфікацыі, якая вялася стагоддзямі на нашай зямлі, сёння вялікая частка беларускага грамадства карыстаецца нібыта ёю. Якая ж мова гучыць з вуснаў тутэйшых людзей, калі яны хочуць паразумецца на рабоце, у магазінных чэргах, у транспарце і г.д.? Рускай моваю назваць яе не паварочваецца язык. Гэта моўны сленг, сурагат, які грунтуецца на некалькіх сотнях слоў. Па аб'ёму слоўны запас крышачку большы, чымся ў Элачкі-людаедкі з вядомага рамана Ільфа і Пятрова. Атрымалася так, што і ад сваёй мовы адвучаны, і чужой не авалодалі. А таму на Беларусі гучыць знакамітая, жахлівая сваёй убогасцю "трасянка". Асабліва выразна гэта высвечваецца ў рабоце парламента, у выступленнях кіраўнікоў усіх узроўняў, тэле- і радыёкаментатараў. Якія толькі "перлы" не выдаюцца "на-гара"! Не толькі вушы вянуць, але і сківіцы набок зварочвае "ў настаяшчы мамент" ад гамонкі нашых "цыцэронаў".

Варварскія адносіны да роднай мовы становяцца прычынаю такога ж стаўлення і да іншых моў, зводзяць узровень агульнай культуры народа да шэрасці і прымітывізму. А прымітывізм нікому не патрэбны. Якраз сваёй адметнасцю, якая грунтуецца ў першую чаргу на мове, бо яна — першааснова ўсёй культуры народа, мы і цікавыя, і каштоўныя для еўрапейскага і сусветнага супольніцтва, у якім нам неабходна шматгадовай, самаахвярнай фізічнай і духоўнай працаю яшчэ заняць сваё належнае месца.

(Далей будзе)

(заканчэньне. Пачатак гл. на ст. 7)

Паважаны Спадар Прускі!

Было-б вельмі пажаданым, каб у нашых беларускіх публікацыях слова "Рэспубліка" ўжывалася вельмі асьцярожна, асабліва перад назвам нашае краіны Беларусь. Ніхто з нашых суседзяў не ўжывае паняцьцяў Рэспубліка Украіна, Польшча, Латвія і г.д. Гэтае паняцьце ў нас засталося з гадоў Савецкага Саюзу, калі Беларусь лічылі толькі рэспублікай, але не Дзяржавай...

Усяго добрага, М. К.

*Думаю, што ў гэтым ёсьць рацыя...*

Мікола!

Перасылаю ахвяру на дапамогу газэце. Жадаю посьпеху ў працы на карысьць нашае шматпакутнае Бацькаўшчыны — Беларусі. Жыве Беларусь!

Жадаю ўсяго найлепшага, Б. Д.

*Мы ўдзячныя Вам за дапамогу нашай газэце. Заахвочвайце да гэтага сваіх знаёмых ды прыяцеляў. Усяго найлепшага*

Паважаны Спадар Рэдактар!

Дзякуем за газэту. Цяпер Вашая газэта вельмі патрэбная — мы на яе чакаем, як ніколі раней. Далучаем ахвяру і жадаем усяго найлепшага..

В. і М. М.

*Дзякуем за гойную ахвяру і жадаем Вам моцнага здароўя.*

Паважаны Сп. Прускі!

Пры гэтым перасылаем дзьве ахвяры на выдавецкі фонд "Беларускага Дайджэсту". Адна ахвяра ад Спд. Г. С. а другая ад нас. Жадаем Вам усяго найлепшага і вялікіх посьпехаў у самастойнай і адданай выдавецкай працы.

З пашанай, Н. Ж.

*Вялікае Вам Дзякуй і жадаем добрага здароўя!*

## СВЯТОЕ ПІСАННЕ — ПА-БЕЛАРУСКУ

**Праца па перакладу на беларускую мову Святога Пісання будзе актывізавана. Такое рашэнне 6 верасня прынята на пасяджэнні абноўленай Біблійнай камісіі Беларускай праваслаўнай царквы, у якую ўвайшлі выкладчыкі Мінскай духоўнай семінарыі, навукоўцы-мовазнаўцы, літаратары-перакладчыкі. Старшынёй камісіі абраны Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, намеснікам - протаіерэй Георгій Латушка, адказным сакратаром - Іван Чарота.**

Згодна з зацверджаным на бліжэйшы час планам камісія збіраецца ажыццяўляць і іншыя напрамкі дзейнасці. У прыватнасці, намечана падрыхтаваць для шырокага царкоўнага ўжытку чатырохевангелле і адначасова рыхтаваць да друку ўвесь тэкст Новага Запавету, царкоўнаславянска-беларускі слоўнік багаслоўскіх тэрмінаў. На кастрычнік запланавана сумеснае пасяджэнне членаў камісіі і прадстаўнікоў навуковай і творчай грамадскасці Мінска.

**Белінфарм.**

## Чэмпіянат Сьвету ў Швэцыі.

На чэмпіянаце сьвету па лёгкай атлетыцы ў Швэцыі зборная каманда Беларусі заняла ўсьлед за зборнай ЗША ажно другое месца, апярэдзіўшы каля двухсот краін. Зборная Беларусі на спаборніцтвы ў Швэцыю прыехала пад бел-чырвона-белым сьцягам, а вярталася пад сталінска-бальшавіцкім.

***

У гутарцы з карэспандэнтам "Звязды" сакратар цэнтральнага камітэту партыі камуністаў Беларусі Сяргей Калякін сказаў: "Мы выступаем за рэальны суверэнітэт Беларусі, але ў той-жа час мы паважаем выбар народа, зроблены на рэфэрэндуме ў 1990 годзе. Мы разумеем, што СССР няма, як-бы гэтага каму ні хацелася і як-бы балюча гэта ні было. Сёньня рэальна існуе самастойная дзяржава". Разумець то разумею, што ніколі не вернецца тое, што ўжо канула ў Лету, але ўсё роўна хочуць зацягнуць наш народ у "сьветлае мінулае".

## "НАША НіВА" на рамонце

**Пасьля паведамленьняў у "Звяздзе", радыё "Свабода" і іншых сродках масавай інфармацыі пра тое, што газэта "Наша Ніва" спыніла выхад, наш карэспандэнт зьвярнуўся па тлумачэньні да мастацкага рэдактара гэтага выданьня Сяргея Харэўскага. Вось што ён паведаміў:**

— "НН" прыпынілася роўна на два месяцы. Гэты час спатрэбіўся нам, каб вырашыць арганізацыйныя праблемы (неўзабаве ў Менску будзе створаны Фонд "Наша Ніва", у дадатак да цяперашняга бюро ў Вільні адкрыюцца карпункты газэты ў Варшаве і Нью-Ёрку), а таксама каб удакладніць канцэпцыю выданьня. Першапачатковая канцэпцыя, якую мы рэалізуем ужо пяць гадоў, на нашу думку, ужо не выглядае так цікава, як на пачатку. Таму мы ўзяліся за "бягучы рамонт". Але гэта ня значыць, што нашы сталыя чытачы атрымаюць сёлета менш нумароў альбо ня знойдуць у газэце таго, да чаго прызвычаіліся. Гутарка ідзе толькі пра ўзбагачэньне. Цяпер рэдакцыя працуе над 32-палосным верасьнёўскім нумарам. Тут будуць нашыя заўсёдныя рубрыкі, арыгінальная і перакладная літаратура, культуралогія, кніжныя рэйтынгі і агляды... З арыгінальнай літаратуры — новы раман Адама Глёбуса "Амстэрдам", падарожныя нататкі Уладзімера Арлова — гэтым разам з Ню-Ёрку, "Дзёньнік рэваншыста" Славаміра Адамовіча... З гэтага ж нумару пачнем рэгулярна даваць усю найцікавейшую інфармацыю з літаратурнага і культурнага сьвету, гутаркі з вядучымі замежнымі пісьменнікамі, найноўшыя творы. Будзе і наша беларуская паліталогія, развагі пра гісторыю ды шмат іншага. Словам, усяго стане болей, а сама газэта стане больш зразумелай для шырэйшае аўдыторыі.

**С.І.**

## У МУЗЕЯ ЮБІЛЕЙ!

**Літаратурны музей Янкі Купалы рыхтуецца адзначыць паўвекавую гадавіну з дня свайго заснавання. За гэтыя гады ён стаў сапраўдным цэнтрам купалазнаўства, самым актыўным папулярызатарам творчасці вялікага паэта. І юбілейныя мерапрыемствы не толькі створаць атмасферу свята, а паслужаць яшчэ аднай сур'ёзнай падставай для глыбокай размовы аб літаратуры і духоўнай спадчыне Янкі Купалы.**

Своеасаблівай прэлюдыяй да галоўных падзей урачыстасцей можна назваць вечар у медвучылішчы № 2, які адбудзецца ўжо 18 верасня. У простай атмасферы «беларускай хаткі» перад навучэнцамі выступяць работнікі музея, вядомыя паэты, артысты, барды. Галоўнай тэмай вечара стане «Неўміручая песня Купалы», такая сучасная і актуальная для нашага часу.

**Вольга ШЧАДРЫНА, Белінфарм.**

## ТАВАРЫСТВА ЁСЦЬ — БУДЗЕ І ГАЗЕТА

**Свая газета — «Беларус Украіны» ў хуткім часе з'явіцца ў нацыянальна-культурнага таварыства «Беларусь». Такое рашэнне прынята на канферэнцыі беларусаў, якія пражываюць у Кіеве. Украінскую сталіцу выбралі сваёй другой радзімай звыш 30 тысяч нашых суайчыннікаў. Арганізатарам канферэнцыі стала пасольства Рэспублікі Беларусь ва Украіне. З інфармацыяй аб задачах і дзейнасці нацыянальна-культурнага таварыства «Беларусь» выступіў саветнік пасольства Уладзімір Бокач.**

Старшынёй таварыства выбраны ганаровы грамадзянін Кіева, Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант Міхаіл Піліпенка, яго намеснікамі — прафесар, доктар эканамічных навук Вікторыя Аляксеенка і інструктар Радзянскага выканкома ўкраінскай сталіцы Ірына Аржахоўская.

**Белінфарм.**

## Дыскрымінацыя беларусаў у Літве

**4 ліпеня Таварыства Беларускай культуры ў Літве атрымала папярэджаньне ад гарадзкіх уладаў з загадам на працягу сямі дзён вызваліць памяшканьні Таварыства. У адваротным выпадку высяленьне адбудзецца "ва ўстаноўленым парадку".**

Тры кватэры на вуліцы Жыгімонта, якія сёньня займаюць беларускія суполкі — гэта спадчына беларускіх арганізацый даваеннага часу. Права на гэтыя памяшканьні ТБК адстойвае ўжо на працягу пяці гадоў. Паміж іншым, гэта — адзіны прыстанак беларускіх культурных арганізацый у Вільні, якія пасьля выгнаньня адсюль апынуцца на вуліцы.

Папярэджаньне, якое падпісаў дырэктар Староства старога гораду В.Вінікас, сьведчыць пра намер уладаў Літвы прымяніць да тутэйшых беларусаў дыскрымінацыйныя меры. А паколькі клопат пра меншасьці заўсёды быў надзейным індыкатарам беларускалітоўскіх міждзяржаўных адносінаў, то гэта значыць, што Літва мае намер сьвядома пагоршыць свае дачыненьні з Рэспублікай Беларусь.

**Б.Р.**

Паўстае пытаньне: Навошта жамойцам займацца сьвінствам?!